

**Васіль БЫКАЎ**

ВЕДАМЫ БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕНЬНІК

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ

BYELORUSSIAN WORLD

NO. 7 (36) - 1980

# Край палескі

**Словы А. РУСАКА** **Муз. Ю. ТАЛЕСНІКА**

Moderato

За ра-кой лу-гі ды пе-ра-лес - кі, там ля-
-сы за Пры-пяц-цю шу-мяць. Ой, шы-ро-кі ж край ты наш па-
-лес - кі, і кан-ца пра-сто-рам не ві-

1 2 3

С. А. / Т. Б.

-даць. Ой, шы-ро-кі край ты наш па-лес - кі, і кан-
-ца пра-сто-рам не ві-даць. У шы-

4

тай жа край ты наш па-
-лес - кі, род-ны край, у шчас-ці рас-цві-тай!

За ракой лугі ды пералескі,
Там лясы за Прыпяццю
шумяць.
Ой, шырокі ж, край ты наш
палескі,
І канца прасторам не відаць.
У шырокім лузе над
крыніцай
Шалясціць духмяная трава,
Там красуе жыта і пшаніца,
Дзе была адвечная дрыгва.

І шуміць за рэчкаю узлессе,
Закруціўся шлях паміж
прысад,
І лунае песня на Палессі,
Песня слаўных хлопцаў
і дзяўчат.
За ракой лугі ды пералескі,
Песняй ранняй абудзіўся
гай.
Расцвітай жа, край ты наш
палескі,
Родны край, у шчасці
расцвітай.

В. ПАНУЦЭВІЧ

# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

## ( 1840 - 1900 )

працяг

Каманду над ацалелымі паўстанцамі пераняў студэнт Маскоўскага ўнівэрсытэту Кароль Ясевіч, які паходзіў таксама з Ашмяншчыны. 40 чалавек з б. аддзелу Мінэйкі пад провадам А. Снадзкага (пісар Ашмянскага грашовага кіраўніцтва) далучыліся да аддзелу Густава Чаховіча («Астоя»). Дарэчы трэба сказаць, што Ф. Багушэвіч мог быць таксама ў аддзеле Чаховіча, бо гэты аддзел быў у ваколіцах Кушлянаў. Той-жа Снадзкі, будучы ўжо у аддзеле Чаховіча, быў захоплены ў палон пад Соламі (15 км. ад Кушлянаў) ды ў жніўні 1863 г. растраляны ў Ашмянах. Г. Чаховіч паходзіў з маёнтку Паўлінава суседняга Сьвянцянскага павету.

Паводля прызнаньняў Снадзкага, у ягоным аддзеле было 200 паўстанцаў. Схопленыя паўстанцы на сьледзтве апавядалі ў сваіх прызнаньнях, што Снадзкі з выгляду быў хударлявым блёндынам гадоў 28, з вялікай барадой, бакенбардамі й вусамі. Калі Чаховіч часова пакідаў аддзел, то накладаў цёмныя акуляры, каб не пазналі яго царскія шпіёны.

Яшчэ некалькі месяцаў мужна змагаліся паўстанцы з непараўнальна большымі сіламі царскай арміі. Рэпрэсіі ставаліся штодзень страшнейшымі: палонных каралі сьмерцяй. Шыбяніцы стаялі ў Ашмянах, Смаргонях, Гальшанах ды ва ўсіх гарадох і мястэчках нашай зямлі...

Надышла позьняя восень 1863 г. Патаемнымі сьцяжынкамі перабраўся паўстанцкі курыер з Вільні. Ён прынёс ад Кастуся Каліноўскага загад № 116, датаваны 1-ым кастрычнікам 1863 г. У загадзе гаварылася: «... каб Ашмянскі аддзел войска выйшаў з Ашмянскага павету ды падаўся ў Вілкамірскі павет, або Лідзкі ці ў Горадзенскую губэрню, а калі патрэбна, падзяліўся на дробныя групы, але ніяк каб ня думаў аб капітуляцыі, але каб быў гатовы для прадаўжаньня вызвольнай барацьбы. (Цэнтр. дзярж. ваен. гіст. архіў ВУА, с. 1310).

Магчыма, што ў гэты час і пайшоў Ф. Багушэвіч разам з Ашмянскімі паўстанцамі за Нёман — у Сувальшчыну. Але з нднолькавым посьпехам ня выключана думаць, што Багушэвіч перайшоў з некаторымі паўстанцамі ў Лідчыну, дзе ён меў сваіх сяброў. Сярод шматлікіх паўстанцкіх групаў, быў аддзел, баявы шлях якога ляжаў праз Доцішкі, дзе Багушэвіч працаваў настаўнікам, у Сувальшчыну. Мы маем на ўвазе аддзел «Астрогі» (Парадоўскага).

12 чэрвеня 1863 г. у сутычцы пры хвальварку Доцішкі царскі палкоўнік Уласаў здабыў м. Астрогі, перапіску, карты ды «найбольш каштоўны трафей» — парадную шапку камадзіра.

*

Начальнікам паўстанчых збройных сілаў у Лідзкім павеце быў Людвік Нарбут, сын ведамага гісторыка Тодара Нарбута. Нарбут арганізаваў паўстанчы аддзел яшчэ ў лютым 1863 г., а ў травені таго-ж году здольны быў вясьці адважную вайну супраць царскіх войскаў. У ягоным аддзеле быў ведамы Віленскі мастак Эльвіра Андрыёні. 22 красавіка 1863 г. Нарбут загінуў у баёх пад м. Дубічы. Камандаваньне над паўстанцамі пераняў яго малодшы брат Баляслаў, а пасьля найбольш дасьведчаны Астрога.

Паходжаньне Парандоўскага-Астрогі дакладна нявыясьнена. Паводля слоў аднаго з палонных, ён паходзіў з Волыня. Яму было 35 гадоў.

Спадзяючыся схапіць Астрогу, маскоўскія ўлады старанна зьбіралі ягоныя прыкметы. Ім было вядома, што ў яго рыжыя валасы, што ён насіў бараду й бакенбарды.

Аддзел Астрогі меў сваю базу ў раёне між Шчучынам і Эйшышкамі. У цяжкія часіны паўстанцы хаваліся ў Гарадзенскай пушчы, дзе атрымвалі дапамогу й харчы ад сялянаў вёскі Кракшлі. У канцы чэрвеня 1863 г. Астрога зьяднаўся з аддзелам Гарадзенскіх паўстанцаў, якімі кіраваў Лянкевіч (Ляндэр). Агульнае камандаваньне пераняў Лянкевіч.

1-га жніўня 1863 г. гарадзенска-лідзкія паўстанцы пераправіліся цераз Нёман ды перайшлі ў Аўгустоўскую губэрню, дзе пасьля злучыліся з аддзелам Язэпа Рамантоўскага (Вавэр). 5-га верасьня 1863 г. у Зязёным лесе, недалёка ад Аўгустова зьяднаныя сілы паўстанцаў былі разьбітыя.

Пасьля некаторага часу Раматоўскі й Лянкевіч, ацэньваючы ўсе падзеі, што далейшая барацьба безнадзейная, распусьцілі паўстанцаў, а самі падаліся заграніцу, назахад. (І. Абрамовіч, Мары. Успаміны аб паўстанчым руху ў Горадз. ваяводзтве ў 1863-64 г. г. папольску).

Гераічнае Паўстаньне 1863 г. было здушана. Душыцель паўстаньня Мураўёў-Вешацель і ягоныя пасьлядоўнікі ўзялі курс на татальную русыфікацыю.

Край нібы вымер. Лепшыя сыны нашага народу або згінулі ў няроўнай барацьбе, або пакутавалі ў рудніках Сібіру, на ссылках ці казаматах, або разбрыліся па ўсім сьвеце. Бацька Ф. Багушэвіча, ягоны брат Апалінары й сястра Ганна сядзелі ў Віленскай турме. Царскія ўлады доўга шукалі другога яго брата — Валерыяна. Ад брацкіх магілаў, ад родных папялішчаў падаўся на Украіну і Ф. Багушэвіч... Мусіць пад усім жудасным цяжарам расейскага прасьледу Багушэвіч напісаў своеасаблівы рэквіем — плач па растаптаных падзеях, па загінуўшых барацьбітох:

Ну, дык грай-жа, грай-жа,
Усё ўспамінай-жа...
Што дзень і што ночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач штораз болей.
Плач так даастатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці, —
Дзень другі і трэці.
Іграй сьлёзным тонам
Над народу сконам...
(«Мая дудка»)

Мы ведаем, што Францішак Багушэвіч прымаў збройны ўдзел у паўстаньні 1863 г. пад провадам Кастуся Каліноўскага ды адбыў свой шлях ад Ашмянаў да Сувальшчыны... Доўгі час у крытычных матарыялах аб Ф. Багушэвічу ў пэрыяд 1863 - 1889 гг. вытварылася амаль пустэча. Усе біяграфы яго проста пераскаківаюць гэты пэрыяд. Адно толькі было ведамым, што Багушэвіч апынуўся на Украіне ды скончыў у Нежыне юрыдычны ліцэй пасьпяхова. Спачатку, як кандыдат на судовую пасаду, пасьля як судовы сьледчы працаваў у Чарнігаўскай губэрні, пазьней у Валагодзкай, ды 1872 зноў у Чарнігаўскай. Толькі ў наш час вялізныя пошукі ў архівах Польшчы і СССР Г. Кісялёва («Фр. Багушэвіч і Ян Карловіч», Полымя, 1961), С. Аляксандровіча («Старонкі братняй дружбы», Менск 1960), даюць новае

навуковае сьвятло аб дзейнасьці Ф. Багушэвіча. Выясьнілася, што ў 1891 г. Багушэвіч разам з Карловічам прымаў удзел у працах зьезду дасьледнікаў прыроды ў Кракаве. Гэта навяло Аляксандровіча, дасьледніка, да думкі, пашукаць матарыялаў пра Ф. Багушэвіча ў асабістым архіве Карловіча, які перахоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ў Вільні.

І вось у калекцыі «Віленскага таварыства сяброў навукі» Аляксандровіч знайшоў перапіску і Багушэвіча (справа 92, арк. 177-268).

Мова дакумантаў польская, часам беларуская, асобныя выказваньні ў расейскай...

Лісты Багушэвіча значна пашыраюць наша ўяўленьне аб творчасьці Багушэвіча, аб яго поглядах, асобе і г. д. Яны ярка малююць яго характар, умовы жыцьця і, што асабліва важна, даюць магчымасьць пранікнуць у яго творчую лябараторыю...

Высьвятляецца, што дружба паміж Багушэвічам і Карловічам пачалася яшчэ ў 60 гадох. Гэта дзякуючы Карловічу, Багушэвіч, як удзельнік паўстаньня 1863 г., здолеў схавацца ад царскіх шпіёнаў ды перабрацца ў Нежын на Украіне. Аб гэтым сьведчыць ліст Багушэвіча з 26 жніўня 1865 г., у якім Багушэвіч пісаў зь Нежына да маці Карловіча: «Мабыць, яснавяльможнай пані вядома, што я забавязаны яе вялікароднаму сыну ўсёй сваёй будычыняй. Магчыма я, і да гэтага часу, абіваў-бы віленскі брук без усякай карысьці, калі-б не яго высокародная дапамога, якую ён мне выявіў, даючы грошы на дарогу да Нежына без ніякае гаранцыі ды не вызначаючы тэрміну на зварот. Таму, дзякуючы Яго ласкавасьці, я працую ў Нежынскім ліцэі ды маю надзею, што лёгка разьлічуся із сьвятой для мяне пазыкі, хоць і ня так хутка, як спадзяваўся спачатку. Толькі нядаўна я атрымаў рэпатытарства на вельмі цяжкіх для мяне ўмовах, але тут у Нежыне, яно даволі добра аплачваецца, 8 руб. у месяц, (бяруць тут студэнты ліцэю і за 3 рублі, што ўжо хапае на стол і кватэру), а я здаволены, што ня буду цяжарам людзям, якім і бяз мяне аж надта турботаў.»

Як бачым, ліст Багушэвіча дае магчымасьць здагадацца, якім чынам былы супрацьрасейскі паўстанец, апынуўся ў ліку студэнтаў Нежынскага ліцэю.

Мы ня ведаем, калі й у якіх абставінах Багушэвіч і Карловіч зьблізіліся. Праўда абодва скончылі тую-ж самую Віленскую Гімназію, але не ў адным часе, менавіта, калі Багушэвіч паступіў у першую клясу, Карловіч атрымаў ужо атэстат сьпеласьці (матуру). Праз трынаццаць гадоў Карловіч абараніў доктарскую дысэртацыю, а цудам ацалелы паўстанец 1863 году, Багушэвіч, засеў за школьную лаўку ў Нежынскім ліцэі. І ўсёжтакі, супастаўляючы біяграфіі гэтых двух людзей, можна знайсьці пункт, калі іх жыцьцёвыя шляхі маглі ў першыню перакрыжавацца, — піша Кісялёў. У 1862 г. б. студэнт Пецярбурскага ўнівэрсытэту Ф. Багушэвіч быў настаўнікам у маёнтку Доцішкі, Лідзкага павету. Недалёка, у маёнтку Падзітва, жыве стомлены навукамі малады Карловіч, які прабуе пасьля сьмерці бацькі авалодаць тайнамі кіраваньня гаспадаркай. Вось тады, трэба думаць, адбылося іх першае знаёмства ў 1865г. Ды ў пачатай перапісцы — перапынак на 22 гады. Як разьвіваліся адносіны паміж Багушэвічам і Карловічам у гэтым пэрыядзе, сказаць цяжка. Адно толькі бясспрэчна — Багушэвіч да канца свайго жыцьця быў удзячны Карловічу за тое, што ён дапамог яму ў маладосьці. Бясспрэчна таксама, што перапіска Багушэвіча з Карловічам захавалася няпоўнасьцю, і першыя лісты за 1887 г. адразу нас уводзяць у атмасфэру ўжо наладжаных адносінаў.

На якім-жа грунце трымаліся адносіны між Багушэвічам і Карловічам у 80-90 гады?

Багушэвіч — сьціплы адвакат, прысяжны паверaных спраў у Вільні. Пэўне-ж ён і тут мог-бы зарабляць грошы, што чынілі падобныя адвакаты. Але ён быў новага пакрою чалавек. Ён мала цікавіўся адвакацкай справай, яго пацягвала пісаньне вершаў у беларускай мове ды недаходнае іх выдаваньне ў кніжачках - зборніках...

Мячыслаў Карловіч (11. XII. 1876, в. Вішнева, Сьвянцянскага пав. — 8. 2. 1909) — ведамы вучоны, рэдактар польскага навукова - папулярнага варшаўскага часапісу «Вісла». Матарыяльнае яго становішча — трывалкае і пэўнае: апроч прыбыткаў ад выдавецтва, у яго не абы - якія маёнткі на Віленшчыне. Карловіч цаніў літаратурную творчасьць Багушэвіча і, што яна вялікая культурная справа для Беларускага народу, дык успамагаў Багушэвіча ў выданьнях ягоных зборнікаў. Апрача таго даручыў яму нагляд за Вішневам, маёнткам свае жонкі ў Сьвянцянскім павеце.

Як гэты нагляд Багушэвіча выглядаў, прачытайма ягоныя лісты да Карловіча: У першым зь 10. 22 чэрвеня 1886, Багушэвіч пісаў: «Некалькі дзён таму назад я пабываў у Вішневе, жадаючы атрымаць належныя грошы ад розных дробных пасэсараў ды з мэтай агляду ўсяго ў цэлым. Жаданьні не збыліся, таму, што ніхто нічога ня даў, але ў той-жа час я агледзеў усё. Янішкі Сульжыцкі пакінуў зусім зарослыя дзірваном, неаброблены й незасееныя. Цяпер новы пасэсар шчыра ўзяўся за работу, і маю надзею, што ён добра паставіць гаспадарку, бо мае ўдоволь рабочай сілы. Гумно там трэба накрыць, а саломы няма. Мы-ж будзем мець з пасекі, зданай на палавіну (дзе бралі лес на паліва для бровару) каля 40 - 50 коп жыта, дык можна будзе даць яму адтуль саломы колькі трэба, пры ўмове, што арэндатар вымалаціць і кулі пойдуць на пакрыцьцё пуні...

А вось другі адрывак з ліста з 13. 25 ліпеня 1887 г.: «У час майго побыту ў Вішневе там знаходзіўся губэрненскі мэханік для агляду бровару, ці адпавядае ён умовам, што вымагаюцца правам. Выявілася, што трэба даць новую столь (згніла), жалезныя знадворныя сходы... Гэты агляд выклікае значныя выдаткі, а і сам кантралёр патрабуе 25 руб., за патэнт 2 рублі, прагоны ад Вільні і назад, і... (мабыць узятку). Спраўнік Ляўданскі прысутнічаў пры аглядзе... Я прасіў гадавы тэрмін на правядзеньне гэтых перабудовак... Паўгадовы тэрмін то напэўна дадуць, а тымчасам «неяк будзе»...

Даводзілася Багушэвічу «пазнаваць» і лясную гаспадарку. У лісьце з 7-19 студз. 1888 г. ён абяцаў быць у Вішневе дзеля кіраваньня высечкай лесу. 29 сьнежня г. г. пісаў: «Пасьля павароту з Варшавы быў у Вішневе, замяніў таварны буралом на сажні з пасэсарам пані Сьнядэцкай паводля такога разьліку: пруская капа тавару (г. зн. 378 пагонных сажняў бярвеньняў, лічыць 215 руб.), гэткіх будзе каля 3 коп, а кубічны сажань сьсечанага лесу лічыцца $3\frac{1}{2}$ руб., а за ўсю колькасьць, што ёсьць у месцах буралому і высечкі каля Галоднічаў, ён дасьць адпаведны сажняк. Рэшта буралому будзе або завезена на расьпілоўку, або складзена ў сажні для бровару».

Частыя выезды ў Вішнеў адбіралі ў Багушэвіча многа часу й сілаў. Ды справы там былі не цікавыя. Паштоўкай зь 1-га кастр. 1887 г. Багушэвіч паведамляў: «Быў у Вішневе — там вельмі дрэнна: тры тыдні заліўныя дажджы не дазвалялі капаць бульбу, а ў нядзелю і сёньня мароз, здаецца даволі пашкодзіў»...

Арэндатары не давалі спакою сваімі скаргамі ды неакуратнымі выплатамі арэнды. «Пан Мацюлевіч піша мне скаргі на благі ўраджай бульбы і на пагоршаньне гону гарэлкі, а таксама паведамляе мяне, што просіць паню (жонку Карловіча) зьменшыць арэнду за бягучы год на 500 руб. Я лічыў-бы, што гэта можна было-б зрабіць

на будучы год, калі бровар сябе не апраўдае...»

У лісьце з 5-17 лютага 1889 г. зноў успамінаецца той-жа Мацюлевіч. «Быў тут 22 ст. п. Мацюлевіч, прывёз рэшту арэнды... Што стан земляробства і бровару жахлівы — сумнівацца не даводзіцца...»

Багушэвіч у сваіх далейшых лістох радзіў прадаць усё мястэчка Вішнева. «Шукаю пакупніка на ўсё мястэчка», аднак такіх ня было. Тады Багушэвіч напісаў Карловічу 13-25 сакавіка 1889 г.: «Вымушаны буду прасіць вяльможную паню даць мне адстаўку, але, здаецца, што гэтым думаю, не страціць вяльможнай пані, паколькі я перадам гэты абавязак больш працавітаму й дасьведчанаму чалавеку, чымся я, а за сумленьне ручаюся сваім сумленьнем...»

Магчыма, Багушэвіч такім літаратурным зваротам, хацеў апраўдаць сябе ў цяжкім сваім абавязку арэндатара Вішнева... Бо Карловіч на яго заяву не ўступаў у гутаркі...

Аднойчы ў травені 1889 г., калі Багушэвіч ляжаў у пасьцелі з запаленьнем лёгкіх і пісаў ліст Карловічу, з-пад яго пяра пацяклі такія горкія словы: «О. здрадлівая вясна! Ты зусім падобная на прайшоўшую вясну майго жыцьця: бліськне сонца, і холад прымарозіць; каб лета ня было такім, як маё мінулае!»

На новы 1888 г. падсумоўваючы вынікі жыцьця, ён пісаў: «Шчасьлівы, хто пережыў мінулыя гады, няхай апошні, у шэрагу такіх! Божа, дай мужнасьць і надалей! Але накіруй ліха на сухія лясы! Можа быць ніхто з такой мінай не глядзіць, на гэтыя прайшоўшыя гады, як я, каторы гэтулькі іх згубіў бяз сьледу: прамываў цукар у вадзе ўвесь час... Калі б ведаў, што хоць адзін год зноў будзе такі, якіх было многа, — не жадаў-бы.»

З гэтым лістом пераклікаецца ліст з 23 лют. (6 сак. — новы стыль) 1891 г.: «Нездаровіцца мне — мусіць праклятыя 50 год! А якія-ж недарэчныя 50, як недарэчна пережытыя, як убога!» Здараліся ў жыцьці пісьменьніка й прыгнятаючыя пэрыяды. Так у лісьце з 19 ліст. (1 сьн.) 1887 г. чытаем: «У апошні час пережыў надзвычай цяжкія хвіліны: мой пасэсар (відаць Багушэвіч здаваў свае Кушляны ў арэнду), што меў — прадаў і не аддаў мне ні грошыка арэнды; сам хварэў на нейкі пэрыкардыт, дачка толькі цяпер ачуньвае пасьля цяжкай хваробы...»

Багушэвіч, міма жыцьцёвых дакораў, усё-ж быў чалавекам з гумарам, які дапамагаў яму не заламацца духова ў розных жыцьцёвых турботах. Вось ягоныя словы: «Меў намер выслаць сваю араву (сям'ю) ў гэтым годзе ў вёску на лета, — пісаў ён жонцы Карловіча 13-25 чэр. 1889 г. Тымчасам у майго пасэсара разгасьціўся ў доме тыф (апрача сухотаў у кішані)! Ліха яго ўзяло, не шанцуе мне нават у самых дурных справах! У гэтым напр. годзе прапанавалі мне 200 руб. за два месяцы заступніцтва юрысконсуля ў кіраўніцтве Палескіх дарог. Адмовіўся таму, што былі праекты і наконт вёскі і наконт Люксэнбурга (Багушэвіч у 1889 г. меў намер паехаць у Люксэмбург,) выходзіць, страціў і намесьніцтва і канікулы.»

У лісьце 2-14 сьнежня 1891 г. Багушэвіч пісаў: «Усё больш цяжка здабыць хлеб на нашым полі дзейнасьці, і ня ведаю, што будзе ў старасьці, якая не загарамі.» З гэтага відаць, што Багушэвіч на 50-ых гадох жыцьця чуўся стомленым штодзённымі клопатамі жыцьця. Праўда, Карловіч яго ўспамагаў пазыкамі ў крытычных хвілінах, але не заўсёды Багушэвіч мог вывязацца на час сплатай. А прычыны такіх частых клопатаў ляжалі ў агульным нацыянальным эканамічным застоі. Кліенты, якіх ён бараніў перад судом, часта не маглі выканаць сваіх забавязаньняў, а арэндатары падуладных гаспадарак ня ў сілах былі на час сплаціць сваіх за-

бавязаньняў у тэрміне. І Багушэвічу прыходзілася пісаць распачлівыя лісты да свайго пратэктара Карловіча: «Яшчэ раз прашу прабачыць мне маю неакуратнасьць: лягчэй мне было-б прайсьціся голым па вуліцах Вільні, чым апраўдываць сваю бездапаможнасьць.» (Ліст з 23. X. - 4. XI. 1888 г.).

А вось іншы ліст з 30 сьнежня 1891 г.: «На сёньня знаходжуся ў ганебным становішчы, бо не разьлічыўся за пазычанае ў вызначаным часе; сёньня магу пераслаць толькі 100 руб., маю надзею хутка прыбыць ў Варшаву з рэштай даўгу. Даруй, дастойны пане, маю нявернасьць слову, якая вынікае зь лёгкавернасьці ў адносінах да іншых людзей, што ня маюць звычкі датрымліваць слова... Адчуваю, што раблю гэтым непрыемнасьць, і гэта мне вельмі балюча...»

З лістоў Багушэвіча даведваемся, што ў 1896 г. ён атрымаў спадчыну ад аднаго зы сваякоў, што крыху паправіла яго становішча. Першае ўспамінаньне пра спадчыну знаходзім у лісьце Багушэвіча да Карловіча з 18-30 лістапада 1890 г. «Каля Каляд маю таксама намер падскочыць на некалькі гадзін у Варшаву, і гэта з пабуджэньняў ня вельмі радасных: дрэнны стан справаў, падарванае здароўе, страх за будучыню дзяцей паказваюць мне думку — наведаць высокадастойнага сваяка, які шукае спадчыньніка...»

У наступным годзе, зьвяртаючыся да Карловіча з просьбаю пазычыць яму 500 руб., Багушэвіч іранізаваў: «Вельмі шаноўны варшаўскі дзядзечка, паводля спраўджаных вестак, гэны закаханы ў мяне, аднак пакульшто плятанічна' ня ведаю, ці ён у тэстамэнце ўспамянуў мяне, ці не.» На спадчыну мецілі і іншыя сваякі, і Багушэвічу прышлося вытрымаць зь імі доўгую, непрыемную цяганіну.

Улетку 1894 г. Багушэвіч зноў езьдзіў у гэтай справе ў Варшаву і пісаў Карловічу 12-24 жніўня: «Быў сёньня на зачарованай спадчыннай справе. Цэлы дзень сох у судзе, брахаў, як наняты, а справу адклалі яшчэ на 26 жніўня.» Але спадзяваньні не збыліся і на гэты раз. «Усьцяж вісіць мая справа, чытаем у лісьце з 21 верасьня 1894 г. Ды й пасьля году справа не зьмянілася. Ліст з 2 лістапада 1895 г. зноў пачынаецца прабачэньнем за неакуратнасьць сплаты даўгу... Цяжка ўявіць, якія маю клопаты з гэтай праклятай спадчынай, і да гэтага часу маю яе адно на паперы...

«29 версьня ст. ст. 1895 г. Судовая Палата ўжо канчаткова прызнала яе ( спадчыну) за мной, пасьля шасьці тыдняў павінен я ўжо атрымаць грошы. Тымчасам другая старана, падае касацыю ў Сэнат (тэрмін да 4 мес.), прасіла адтэрмінаваць выкананьне пастановы палаты да часу вырашэньня гэтай справы ў Сэнаце. Такім чынам, тыдні пераварочваюцца ў месяцы; і вось 18 кастр. ст. ст. 1895 г. Палата ў адпаведнасьці з Законам пастанавіла адтэрмінаваньне. Я высах ужо горш, як тыя псальмавыя «скваркі», не ад вар'яцкай прагнасьці спадчыны, а ад непрыемнасьцяў, што мне напладзіла даўгоў гэтая справа...»

Даводзіцца толькі дзівіцца, што ў гэткіх цяжкіх умовах Багушэвіч усё-ж-ткі мог працаваць ды знаходзіць спосабы, каб памагаць свайму беднаму народу. Ён і надалей ніколі не прапускаў выпадку дапамагчы беднаму чалавеку. Ён ніраз і надалей зьвяртаўся да Карловіча з просьбай такога роду: «Ёсьць тут дзяўчынка гадоў дзесяці, маючая надзвычайныя музычныя здольнасьці. Яна грае на скрыпцы такія рэчы, сьпісак якіх далучаю. Справа ў тым, каб даць ёй адукацыю ў мастацтве; таму зьвяртаюся да Вельмі Дастойнага Пана з просьбай аб рэкамандацыі.» (Ліст з 1-13 кастр. 1893 г.).

А вось іншы ліст з 9-21 сьнежня 1890 г.: «Быць можа пасьля Новага Году

зьявіцца да Вас Ян Багушэвіч, юнак, гадоў 25, добрай натуры: скончыў Гімназію ў Варшаве, пабываў не са сваіх хаценьняў у Сібіры ў 1885 г., а цяпер хоча ехаць заграніцу (сродкі мае) дзеля адукацыі ў польскай літаратуры, а з часам мае думку заснаваць нейкае пэрыядычнае выдавецтва... Ня ведае дасюль, куды павінен зьвярнуцца дзеля здабыцьця ведаў. Варшава яму забаронена для жыхарства. Хістаецца ў выбары, ці ехаць у Парыж, ці ў Кракаў. Юнак вялікай высокароднасьці ды нясьмелы. Раіў яму зьвярнуцца да Вас дзеля атрыманьня талковай парады...»

У 1889 г. у Вільні памёр музыкант і кампазытар Уладзіслаў Шахно. Як даведваемся зь лісту з 13-25 сак. 1889 г., ён вучыў музыкі дачку Багушэвіча Туню. Пісьменьнік яго памяць ушанаваў нэкралёгам у часапісе «Край». Адначасова Багушэвіч разам з удавой музыканта абмяркаваў справу публікацыі твораў памёршага. Да ўдзелу ў абмяркаваньні гэтых плянаў Багушэвіч прасіў і Карловіча. «Пані Шахно, пісаў ён, нарэшце выбралася ў Варшаву з кампазыцыямі памёршага мужа з мэтай выдаць іх за свой кошт. Але раней яна зьявіцца проста да Вас для пастанаўленьня і выбару, якія творы паводля мастацкай вартасьці павінны быць апублікованыя. Далучаю й маю самую пакорную просьбу аб увазе да Віленчука-Аўтара.»

У міжчасе даведаўшыся аб хваробе мэцэната Карловіча, Багушэвіч з болем пісаў: «Моцна шкадую, што не застаў Вашэці ў Варшаве, а яшчэ большы боль спрычыняе мне недамаганьне Вашэці. Зразумела, мая рада нічога не дапаможа, але варта было б Вам, дастойны Пане, каб Вы, прынамсі на год адмяжаваліся ад усялякай работы, а гэта змагло-б зьберагчы Вам прынамсі 10 год жыцьця!» «Цішэй едзеш — далей будзеш!» — пацяшаў Багушэвіч свайго мэцэната беларускай пагаворкай.

Але і сам Ф. Багушэвіч быў страшэнна перамучаны высоканэрвовай дзейнасьцю пры хісткіх умовах.

У лісьце з 7-19 чэрвеня 1890 г. Багушэвіч малюе Віленскі пэйзаш. «... У нас ў Вільні ніякіх навінаў, апроч новага бруку на многіх вуліцах, новага маста цераз Вільлю на «Зьвярынец», які падзелены на кварталы прыгожымі алеямі ды ўжо паступова засяляецца. Маем стары цырк, і маем Дурава з асвоенымі зьвярамі і дзікіх людзей маем таксама шмат!» (Ліст з 7-19 чэрвеня, бяз году. Некалькі трапных зарысовак малююць выгляд тагачаснай Вільні.

Пільнае вока Багушэвіча ўмела пранікаць у глыбіню жыцьця. У адным зь лістоў, гаворачы пра сваё жаданьне пабываць у Варшаве й Горадні, Багушэвіч пісаў:

«З кожным днём штораз болш апаноўвае мяне сум, або «гнёт непаседлівасьці.» Цяжка няспынна глядзець навокал на тое самае! Хацелася-б зірнуць на хвілінку шырэй у пошуках — ці паўсюдна на сьвеце такая немарач! І прашу ўявіць чалавека, які бачыць увесь небасхіл, а гарызонт зіхаціць сонечным сьвятлом, а вочы — бяз павек!» (Ліст бяз даты. На ім напісана нейкай рукой: 18-3- 93).

Багушэвіч запраўды не фантаст, не фальклярыст у стылі народных баяк, але глыбокі паэт адраджэньня 19 ст. у нашай гісторыі. Адраджэньня ў вельмі цяжкіх умовах, калі Вялікае Паўстаньне К. Каліноўскага ў 1863-64 гг. супраць Маскоўскай імпэрыі было здушанае. Тады здавалася, што няма ўжо ніякага выхаду да жыцьця, адно пакланіцца панявольніку — Маскве. Але вялікія патрыёты Літвы-Беларусі — былі непадкупінцы. У самых цяжкіх, бездапаможных пэрыядах, яны давалі сабе раду ператрываць жорсткі пэрыяд ды надалей стаяць на пазыцыях нацыянальнага вызваленьня.

Багушэвіч сапраўды ня ўмеў плюшчыць вачэй на грамадзкія турботы. «З кожным днём спадае па адной абалонцы з маіх вачэй і па адным лісьціку з пакрыцьця сьвету, і гэтая аголенасьць агідная: подласьць, як шавецкая смала, з тоўстым пластом масы гэтага гною, і бяда таму, што ашукаўся-б прыняўшы яе за глязур!» Гэтак ён раскрываў свае думкі ў лісьце з 13-25. 3. 89 г.

Пісьменьніку былі аднолькава ненавісныя і антынародныя царскія ўлады і ацалеўшыя мясцовыя паны, якія зьбераглiся пасьля Студзенскага Паўстаньня. Багушэвіч наглядна паказвае свой сапраўдны стан духовы. Ён пісаў: «З кожным днём усё больш апаноўвае мяне сум, або «гнёт непаседлівасьці», гэта ёсьць гнёт царскай прывязанасьці кожнага чалавека да свае вёскі, ці акругі. Цяжка таксама цярпець «гнёт непаседлівасьці», цярпець гнёт бяз права глянуць на сонца ці яго-ныя перамены...»

Багушэвічу былі аднолькава недапрыняцьця: царскія ўлады й ацалелыя пасьля паўстаньня 1863-64 гг. паны, якія кляліся Маскве служыць словам і душой.

Багушэвіч гэтай справе ў мэмуарнай дакумантацыі прысьвячае многа месца царскай судовай сыстэме, зь якой сутыкаўся штодзённа. «Заўтра ў клюбе — чытаем у лісьце з 19 ліст. 1887 г., — будзем адзначаць гадавіну (1864) ўвядзеньня новых судовых статутаў, ад якіх, праўду кажучы, застаўся адно хвост, пакольні ад 1881 г. нарабілі масу адмоўных дадаткаў, дый і сам пэрсанал зьмяніўся да непазнаньня. Цяперашні кліч: «Міласьць і праўда хай пануюць у судах» — анамалія: перад паседжаньнем суд ужо мае падрыхтаваныя прысуды, так што, выпераджае «пастановы» судзьдзяў, якую яны павінны даць пасьля апытаньня старон.» І вось ва ўмовах, сярод людзей, пазбаўленых сумленьня й чэсьці, павінен быў служыць Ф. Багушэвіч. Як ён ненавідзеў усё гэта, можна адчуць зь ліста з 30-га сьнежня 1890 г. (11 студз. 1890): «Што датычыць мяне, — пісаў Багушэвіч, — дык я загруз у плюгавай адвакацкай (хутчэй «адвакатарскай», як гаворыць тут адзін паляк), дзеля працы, дзеля кавалка мізэрнага хлеба, і маю мала часу, каб прачытаць што-небудзь карыснага. А юрыдычныя талмуды самы-ж подлы матарыял, адбіраюць у мяне лепшыя часіны майго жыцьця...»

І нават у гэткіх цяжкіх умовах Багушэвіч умеў прыносіць карысьць, дзякуючы сваёй маральнай непадкупнасьці, сумленнасьці. Ён з радасьцю пісаў Карловічу пра свае посьпехі. Вось ліст яго з 9-21 красавіка (нажаль год непададзены, трэба думаць 1888). Гутарка ў ім ішла, аб адным з выступаў вучняў супраць рэакцыйнай расейскай школы. Багушэвіч тады пісаў, як ён ненавідзеў гэтага рэжыму, і быў рады, што здолеў дапамагчы вучням ў нацыянальнай барацьбе усё-жткі ўдала...

Карысьць з адвакацкай дзейнасьці Багушэвіча была тая, што Багушэвіч меў магчымасьць вывучаць жыцьцё, багаціў свае жыцьцёвыя назіраньні...

Багушэвіч у тым часе мог напісаць пісульку жонцы Карловіча: «Спадарства там, у вялікім горадзе, удалечыні ад адчуваньня, што хмара прасьледу ідзе на спадак... Ніхто ня думае, што так было й будзе. Мы адвакаты, паведамляем, на-вучоныя досьледам й навукай, што ніяк ня зыдзем з нацыянальных пазыцыяў... Так быць ня можа, павінна быць інакш, а інакш ня можа быць, як толькі лепш.» 7-19 студз. 1888).

Багушэвіч на сабе спазнаў жудасьць царскай палітыкі ў нацыянальным пытаньні. Яго творы напісаныя мовай шматмільённага народу, не маглі паявіцца ў сьвет у царскай Расеі, і ён змушаны быў друкаваць іх заграніцай...

Пісьменнік чула адклікаўся на ўсе факты нацыянальнага прыгнёту. Вось, як у

лісьце з 5-17 лютага 1889 г., паведамляючы Віленскія навіны, Багушэвіч пісаў аб царскай забароне карыстацца лацініцай замiж кірыліцы, называючы лацініцу — «польскай мовай»: «Побач з гэтым, даем паліцыі забавязаньні (купцом, прамыслоўцам і іншым), што ніколі ня будзем карыстацца «польскай мовай» пад страхам штрафаў...» З гэтай прычыны Багушэвіч перадае актуальны тады ў Вільні жарт: «Адно слова ў тэлеграме на розных мовах каштуе 10 грошай..., а адно беларускае «польскімі» літарамі каштуе 50 рублёў — гэта добры курс...»

У іншым лісьце Багушэвіч зноў вяртаецца да гэтага пытаньня: «Зь віленскіх навінаў заслугоўвае на ўвагу афіцыйная забарона міністэрствам ужываць польскую мому ў Дваранскім клюбе. У выніку каля 100 асобаў кідае гэтую піўнушку, што выклікае банкруцтва яе... Было гэта пры векапомным Мураўёве.» (27 сак. - 8 крас. 1889).

А вось як Багушэвіч характарызуе новых эксплюататараў народу — банкіраў, якія асядлалі ўсіх:

Пытаньне: «Што такое банк?»

Адказ: «Гэта рэзэрвуар, які смокча з грамадзтва ягоныя грошы, каб узбагаціць імі спрытнага банкіра, або таго, хто яго абкрадзе...»

«Там гінуць пэнсыйныя капіталы, тут забраныя на сьвятыню, у іншым месцы на памятнік... У нас таксама банкі «трашчаць», як кажуць пецярбурцы: абакралі крыху камэрцыйны банк, потым дзяржаўны, а затым (ня ведаю чаму не спачатку) казалі, што і земскі на нейкія 20-80 тыс. руб. (18-3-93).

Высьмейваў Багушэвіч і сельска-гаспадарчыя выстаўкі, якія пэрыядычна ладзіліся ў Вільні, каб паказаць «росквіт» Літвы й Беларусі (паводля тагачаснага адміністрацыйнага назоўніцтва). Вось як Багушэвіч высьмейвае тагачасныя сельска-гаспадарчыя выстаўкі:

«Як усім ведама, у нас ёсьць выстаўка, а на выстаўцы, зразумела, шляхцічы, коні, сьвіньні, сабачкі, а таксама іх жонкі, куры, гусі, каровы, кабылы ялавыя і жаробныя, жарабцы «расістых парод» (алюзія да «расейскіх»), і машыны для вырабу.. процьма! Ёсьць тут бульба свайго заводу і жыта, пушчана на сьвет living рознымі гаспадарамі, а таксама стружкі й пілавіньне, розныя гаршкі, а таксама партрэты людзей, зробленыя Яцунскім. Музыка грыміць «Камарынскага» (у зн. «расейская»), што аж коні скачуць! Забыў пра бараноў з рагамі, а вельмі многа ахвіцэраў наведваюць іх; а калі б ня нейкі пан, які тут зь бізуном падтрымлівае конскі парадак, — ня ведаю, што-б гэта было, таму што піва вельмі добрае, а называецца «пільзенскае». Сыры так сьмярдзяць, што паны ня могуць вытрымаць, дык ядуць. А капуста ў самых вялікіх галовах; кветкі штучныя такія прыгожыя, што ніхто ніколі падобных ня бачыў, і вельмі мноства розных штучных рэчаў і розных вырадкаў зь мясцовых абываталяў, болей за ўсё. Адным словам — дзівосная, захапляючая выстаўка!» (Ліст з 7-19 вер. 1891).

У іншым лісьце Багушэвіч ня менш дасьціпна высьмейвае выстаўкі ды паказвае: чыім інтарэсам яны служылі: «Скончылася выстаўка! Будкевіч (мабыць арганізатар выстаўкі) назьбіраў у гэтым годзе кучу сярэбраных мэдаляў, ды і 100 рублёвак, здаецца некалькі, а ў дадатак прадаў і тое і гэтае нядрэнна. Запраўды сьмех з гэтай выстаўкі: не адзін удзельнік яе патраціў увесь ураджай, каб выкарміць вала ці карову, прызначанага ў якасьці ўнікальнага экспанату. Было тут многа сытых валоў, аслоў і кароў, што выкарміліся коштам худых насуперак Путыфару», (зь бібліі). Ліст з 24 вер. - 6 кастр. 1888).

Такім чынам Багушэвіч высьмеяў, што тыя затраты на наладжаньне выставак, прынесьлі-б куды больш карысьці, чымся выставачны прапагандны аспэкт, які служыў адно дзеля ўмацаваньня царскага панаваньня...

Багушэвіч бачыў у падобных мерапрыемствах толькі спробу замазаць, утаіць вострыя супярэчнасьці эканомікі Беларусі. Хто-ж, як ні ён, лепш ведаў цяжкае жыцьцё сялянства, якое задыхалася ад бязьзямельля, цярпела нястачу. У сакавіку 1888 г. у Беларусі былі нязвычайна вялікія маразы. Многа перадумаў у тыя-ж дні наш пісьменьнік: «Сёньня ўночы 26 градусаў Цэльсія марозу! У вёсках падчысьцілі кармы, а збожжа высока падскочыла ў цане. Такім чынам яно будзе, а ня пойдзе на корм. Не, цяпер не хацеў-бы быць ні валом, ні аслом, ні канём, ані іншай рэчай літоўскага (зн. «беларускага» — мой дадатак) гаспадара!» (Ліст з 3-15 сак. 1888).

Гэтыя словы пераклікаюцца зусім праўдзіва радкамі Багушэвічавага верша «Кепска будзе»:

Як я толькі нарадзіўся —
Бацька сказаў — «кепска будзе!»
Ну дык-жа-ж не памыліўся:
Зьдзекваліся Бог і людзі.
А ў чым кепска? — бо ў марцы *)
Я радзіўся (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц ў гаспадарцы!
Як пражыў хто, — будзе жывы).
Бульбы толькі як пасеяць,
Пераеўся хлеб да крышкі,
І прыварку ані лыжкі,
І скаціна, — хоць разьвеяць.
Ні саломкі, ані сена,
Хоць на раз той для скаціны,
А тут дроў ані палена;
А тут яшчэ нарадзіны!..
Трэба бабе бохан хлеба,
І гарэлкі-ж трэба пляшку,
Яшчэ-ж хлопца хрысьціць трэба...
Вось і думай, як сярмяжку
Несьці ў піўню пад заставу,
Ці прадаць каня, кароўку...
«Сеў, казаў ён, я на лаву,
Ды ўзяўся за галоўку,
І заплакаў, аж заліўся,
Так, як бацьку пахаваўшы...
Кепска зрабіў, што радзіўся,
Кепска будзе, сьвет спазнаўшы!»
Ці-та слова йшло ўрокам,
Што сказаў у кепскім часе,
Ці зірнуў хто подлым вокам?..
Ну й доля-ж удалася!..
І збылося-ж бацькі слова! —
Вось у тыдзень вязуць гэта:
Хрост сьвяты мне дасьць — Макрова;
Кумаў двое і кабета.
У Аборках мост сарвала...
А я-ж быў ледзь жыў ды слабы:
Рада — ў раду — на тым стала,
Што ахрысьцяць мяне бабы...
Зь Бярэзіны ёмкай жменяй вады
Кума сама зачарпнула,

*) Гэта рэмінісцэнцыя да лісту Багушэвіча з 3-15 сакавіка 1888 г.).

Паматала сюды-туды,
Тройчы на мяне лінула.
«Вось і хрост увесь тут, кажа,
І ксёндз хрысьціць гэтак сама,
Толькі нечым шчэ паможа,
А хлапцу ўсёроўна — яма!
Хоць жывым-бы ды давесьці, —
Каб дарогай не сканала, —
Скажуць — кепска везла дзесьці,
Або туга спавівала!»
Гэтак вось мяне хрысьціўшы,
Едуць назад ўжо да маткі.
Вочы добра пазаліўшы,
Ледзьве ўнесьлі мяне да хаткі.
Закусіўшы тут як трэба,
Пакумаліся — і квіта.
Баба ўзяла бохан хлеба,
Пляшку водкі, торбу жыта;
Разышліся ды паснулі... —
Матка-ж мяне калыхае
«Люлі, шэпча, сынок, люлі!»
А як зваць? — сама не знае.
Вось назаўтра спазараньня
Бяжыць матка да кумошкі
Ды пытае, як празваньне
далі сыну? Лёну трошкі
Тут прынесла пры здарэньні,
Трошкі сала, круп са жменьню...
А кума-ж была праворна:
Хоць што збрэша, не запнецца'
Круціць сабе ў сенях жорны,
Трэба-ж салгаць! Куды-ж дзецца?
«Імя-ж, кажа, твайму сыну —
Ксёндз хацеў даць па кантычцы,
Думаў ён можа з гадзіну,
Узяў кантычку і стаў рыцца...
Дык пасьля із «каліндарка»!
Матка хутчэй з хаты ў сені,
Як-бы цівун гнаў яе па карку,
Усё шэпча то найменьне:
«Аліндарка, Аліндарка!..»
Прыляцеўшы так дадому,
За калыску ўзялася,
І зрадзела, як сьвятому,
Што аж сьлязьмі залілася...
І калыша, і галося:
Вельмі-ж імя ўпадабала, —
Надта пекнае здалося,
Што такога і не знала!
Вось і клікаць мяне сталі,
Скаліндаркам, Аліндаркам...
Ну, як звалі, так і звалі...
Але вось, што з гаспадаркай? —
Найперш конь здох, таго-ж лета,
І цялушка, як лань пала...
Матка-ж, ведама, кабета,
Затужыла і запала,
Гадкоў са тры пацягнула,
У марцы й ручанькі згарнула...
(А ўсё ў марцы, трэба-ж гэта!
А разумная была-ж кабета!)
З таго гора бацька бедны
Стаў маркотны, як магіла.
Было сядзе такі-ж бледны...

«Што-ж ты гэта нарабіла?!»
Гэтак скажа і заплача...
Я стаў круглая сіротка...
Ці дзе днюю, ці начую,
А ўсё бяду сваю чую!..

Вось яшчэ адзін ліст Багушэвіча, у якім чуецца боль за цяжкае жыцьцё народу, і адначасна абурэньне на спэкулянтаў-дарабкевічаў, якія багацяцца на горы людзей: «Цяжка паверыць, што цяпер у вёсцы можна купіць цельную карову за 6 руб., авечку за 1 руб., каня прыгоднага да работы за 7 руб., гадовага за 8 руб. Скуры гэтых жывёлін каштуюць столькі-ж! Жыта ніхто не купляе... За 50 кап. вязуць у Вільню, ды там плацяць толькі 53 кап. за пуд, што складае пры бягучым курсе адно 27 кап. за пуд (?). Аднак на мяса, хлеб і кватэры ў горадзе яны не паніжаюць высокіх цэнаў... Ці-ж можа гэтак працягвацца доўга» (Ліст з 19-1 сн. 1887 г.).

Яшчэ больш выразнае прадстаўленьне народнай беднаты мы знаходзім у лісьце з 21 сьн. (2 студз. 1895 г.). «Сельскагаспадарчы крызыс моцна даецца ў знакі. Сяляне маюць кашу й бліны са скваркамі, але манэты ні наёту! Ходзячы па горадзе, аблізваюцца, глядзяць у вітрыны магазынаў, але нічога не купляюць. Заходзяць у цэрквы й касьцёлы — моляцца, а на абедню айцам — хвігу: стогнуць, чыкільгаюць, паміраюць бяз дахтароў, робяць усемагчымыя круцельствы без адвакатаў... Марнаркі латаюць жанкі, боты самі майструюць, словам нікому — ні капейкі. Цудоўныя наступілі гады!..

далей будзе.

Ф. Багушэвіч

## УДАВА

Шуміць з горкі ручаёчак,
Пырскі раскідае, —
Плача ўдава серад ночак,
Вочкі выцірае.
Ой, маркотная, ліхая
Доля сірот-дзетак!
Але горшая ўдавая,
Як тых малалетак.
Ой, зазнаюць гора, ліха,
Прытыкі і зьдзекаў;
Будуць плакаць гэтак ціха,
Плакаць павек-векаў.
Павек-векаў ручаёчак
Пырскі раскідае, —
Павек ўдоўка серад ночак
Вочкі выцірае!

**Васіль БЫКАЎ**

# МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Аповесьць

працяг

## 21

Зьнясіленыя і прыгнечаныя, мы брыдзем па неглыбокім сьнезе ў сяло.

Нас зусім мала, чалавек з дзесяць. Аднаго двое нясуць на шынялі. Адзін зьнямогла пляцецца, абапёршыся на таварыша. Усе маўчаць. Нехта праставалосы. Нехта прыціскае да боку абвіслую, як бізун, руку. Я шкандыбаю апошні. Карабін, які нічым не паслужыў мне супраць танкаў, цяпер памагае замест кастыля.

Вузенькай сьцежкай па-над тынам мы выходзім на вуліцу і адразу натыкаемся на “віліс” і “дадж”. Яны дбайна прытулены пад сьцяной хаты. Ля іх некалькі камандзіраў. Наперадзе відаць высокая шэрая папаха на маленькім вяртлявым палкоўніку. Гэты палкоўнік нейкім злым вокрыкам раптам спыняе ўсю нашу групу:

— Хто камандзір?

Хлопцы, па адным спыняючыся, панылa маўчаць, поўныя яшчэ перажытым. Нават ня верыцца, што мы ўцалелі. А колькі пагінула ў варонках!.. Палкоўнік нецярпліва пераступае валёнкамі і ляскае сябе дубчыкам па халяве. Побач пастала некалькі камандзіраў з ягонай сьвіты. Усе змрочна глядзяць на нас.

— Хто старшы, я пытаюся? — са стоенай пагрозай выкрыквае палкоўнік.

— Ну, я старшы, — падыходзячы, кажа Еўсюкоў. Ён па-ранейшаму расхрыстаны, з прарэхі курткі праглядае нацельная сарочка. Бінт на шыі ўвесь у крыві.

— Хто вы такі? Ваша званьне? — тонам, які не абяцае дабра, пытаецца палкоўнік і сьціскае голеныя пашчэнкі.

— Старшы артмайстар старшына Еўсюкоў, — змрочна рапартуе старшына, прыставіўшы нагу да нагі.

— Пачаму ўйшлі з вышыні? Хто дазволіў? — строга пытаецца палкоўнік і ва ўпор набліжаецца да старшыны. Той напружваецца і нядобра зыркае на палкоўніка зацятым позіркам.

— А хто нам загадваў там быць?

Палкоўнік скаланаецца ад гэтае дзёрзкасьці і робленым басам крычыць:

— Што? Я вас пытаюся, хто дазваляў пакінуць вышыню?! Вы што — у трыбунал захацелі?

Еўсюкоў неяк няўлад з гэтай строгасьцю трудна ўздыхае і расслабляецца ўсёй сваёй вялікаю постацьцю.

— Эх, дзе вы раней былі, таварыш палкоўнік!

Маленькі, чыста выгалены твар палкоўніка чырванее ад абурэньня.

— Маўчаць! Вы з кім размаўляеце?..

— А пайшлі вы!.. —раптам кідае старшына і, схіліўшы голаў, рашуча крочыць на вуліцу. Ён нейк аж хістаецца, бы п'яны. Нехта з камандзіраў адступае ўбок, даючы яму дарогу. Двое ўзьнімаюць з долу параненага. Хлопцы памалу ідуць за сваім камандзірам.

— Старшына! Загадваю вярнуцца! — крычыць палкоўнік, на абцасах павярнуўшыся назад. Сьледам за ўсімі іду я. Якраз параўноўваюся з ім, і недзе ўнутры ва мне загараецца крыўдлівае пачуцьцё несправядлівасьці.

— Ён танкі спыніў. Каб ня ён, немцы ўжо тут былі-б!

Палкоўнік упіраецца ў мяне вострым позіркам і хвіліну няўцямна глядзіць, нібы не разумеючы, што я сказаў.

— Вы хто такі?

— Малодшы лейтэнант Васілевіч! — адразу-ж выпальваю я, з выклікам уставіўшыся ў яго злы твар. Я не баюся. Што ён мне зробіць, параненаму? Усё, на што мы намагаліся, было па нашай добрай волі. Не думаючы ўжо выжыць, мы ляглі пад самыя танкі. Сапраўды, дзе ты тады быў, таварыш палкоўнік?

— Марш туды, малодшы лейтэнант! Загадваю падразьдзяленьню абараняць вышыню!

— У мяне няма падразьдзяленьня.

— Як няма? Дзе ваша падразьдзяленьне? Марш адзін, сам! Чорт вас вазьмі! Я вас прымушу!..

— Я ранены! Во, ня бачыце? — крычу я ў адказ. Пасьля перажытага гэты тон і патрабавальнасьць, увесь гэты наскок невядомага палкоўніка раздражняе і злуе да ашалеласьці.

Палкоўнік нешта крычыць і кідаецца да мяне, замахнуўшыся сваім дубцом. Але тут недзе побач гахае выбух, які, мабыць першы раз у жыцьці, мяне не палохае. Саломай і нейкай трухой б'е ў нашыя твары, чымсьці гарэлым густа асыпае наўкола сьнег. Палкоўнік падае, і тады я, наперакор сабе, нечакана спахопліваюся: ці не забіты? Чорт з ім, хай-бы лепш жыў! Усё-ж які-ніякі, а камандзір! Але я дарма палохаўся. Неўзабаве палкоўнік ускоквае, ускокваюць з-пад машын ягоныя камандзіры, і нейчы ўстрывожаны голас вусьцішна гукае:

— Таварыш палкоўнік, генерал!

На вуліцы да нас збочвае яшчэ адзін "віліс". Палкоўнік таропка абтрасае ад сьнегу шапку, а я, абыякавы да ўсяго, брыду сабе, куды пайшлі нашы. Мяне ўжо ня трымаюць: ня да мяне. Неўзабаве чую, як генерал пачынае бэсьціць палкоўніка:

— Што ў вас тут робіцца? Пачаму дарога не перакрыта? Пачаму ня выканан загад аб перадачы ІПТАПа? *) Разгільдзяйства і галавацяпства! Я адхіляю вас ад камандаваньня...

Аказваецца, ён сам ня выканаў загад, таму так і накінуўся на нас. Але мы ня можам замяніць сабой супрацьтанкавы полк. Мы ня здольны загладзіць яго разгільдзяйства. Мы можам толькі загінуць. Аднак мы ўжо зрабілі нешта даволі значнае, да чаго ня мае адносін гэты

*) Вынішчальна - супрацьтанкавы артылерыйскі полк.

палкоўнік . І гэта дае нам права не падпарадкавацца. Ня зусім усьвядомлена яшчэ я адчуваю непахіснасьць нашай правааты ў гэтым канфлікце.

Я бачу наперадзе, як нейкі салдат з забінтаванай рукой аб чымсь пытае другога, сустрэчнага, і той паказвае яму ўздоўж вуліцы. Няцяжка здагадацца, што яны маюць на ўвазе. Я іду за гэтым, перавязаным, стараючыся ня ўпусьціць яго з вачэй. Тым болей, што ўжо цямнее. Сонца на небе ўжо няма, і між хат туліцца вечаровы паўзмрок. Проста дзіўна, як хутка скончыўся дзень, які там, на пагорку, здаваўся бясконца доўгім. Танкі ў другім канцы сяла кудысьці адыходзяць. Цяпер страляніна і скогат балванак чуваць за пагоркам у стэпе. Тамжа дым — ці то ад таго, падпаленага капітанам, ці мо ўжо ад іншага. А можа і нашага — магчыма і такое...

Ранейшыя перажываньні меншаюць, і мяне ўсё болей агортвае непакой за Юрку — ці жывы хоць? Няўжо ня выжыве, сканае цяпер, калі цудам выбраліся з самага пекла. А цяпер нашыя танкі, мусіць, немцаў сюды ўжо ня пусьцяць. Тым болей, калі зьявіўся генерал. Пэўна, ён навядзе парадак. Так я мяркую, шкандыбаючы па вуліцы. Дакладней, мне хочацца, каб было так. Я страшэнна змораны, пачуцьці мае адранцьвелі. Адзінае жаданьне валодае мной — прыбіцца дзенебудзь да цяпла і прылегчы...

Салдат наперадзе зварочвае ў нейкую будыніну з абведзенымі сінім вокнамі. Гэта нейкі нежылы дом пад бляхаю, з высокім ганкам, мусіць, які былы сельсавет або ўправа. Неўзабаве з дапамогай свайго кастыля - карабіна дакульгваю туды і я. Скрыпучыя дзьверы неахвотна адчыняюцца, прапускаючы мяне ў цемру.

## 22

— Ну, можа і па трэцяй? Раз не пашанцавала з гасьцініцай, дык хоць вып'ем, — расчырванеўшыся з твару і прыкметна падабрэлы да мяне, кажа Гарбацюк. — чаму не ясі?

— Я ем.

— Што гэта за яда! Успомні, як бывала, на фронце елі... Кацялок кашы на двух і праз хвіліну — як вылізаны. Ардынарцу і мыць ня трэба.

— Кацялок давалі на чатырох. Прынамсі ў пяхоце.

— Ну, у пяхоце я ня быў, — дабрадушна прызнаецца Гарбацюк.

Перад намі яшчэ нешта блішчыць у графінчыку. Ён пад'еў, паўнаватыя яго шчокі сыта блішчаць, вочы жмурацца ў добрасьці. Я таксама гатовы падабрэць. Урэшце, чорт з ім, з гэтым Сахно! Памыліўся — дык яшчэ і лепш. Навошта мне з ім сустракацца? Ды і наогул ці жывы ён? Напэўна прыбілі дзе немцы і ўсё. А я дваццаць год турбаваўся...

Гарбацюк адкладвае відэлец і камечыць у кулаку папяровую сурвэтку. Я аблакачваюся на стол. Карціць даведацца пра яго да канца. Каб ужо без сумненьняў.

— Скажыце, вы не танкіст?

— А як-жа! Танкіст! — з ганарлівай радасьцю кажа Гарбацюк. — Тры гады ў танкавай арміі. Ад Вялікіх Лукаў да Бэрліна. Усе сьцежкі-дарожкі прайшоў.

Выбух вясёлага сьмеху за ягонай сьпіной абрывае фразу. Ля чарнушкі, паклаўшы на яе плячо шырокую руку, усьміхаецца плячысты бландын.

— А цішэй нельга? — строга пытаецца Гарбацюк.

— Можна, — адказвае крайні за сталом, круглатвары і сьветлабровы ў цёмным гарнітуры хлапец. — Эрна, просяць на паўтона ніжэй.

— На паўтона ніжэй! — з гульлівай уладарнасьцю загадвае Эрна суседу.

Той, пачакаўшы, пакуль за сталом уціхне ажыўленьне, з тым-жа знарочыстым пафасам гаворыць далей:

— Ну, скажыце! Скажыце, чаму я яе кахаю? Што ў ёй? Пастава? Грацыя? Хараство? — наіўна акругляючы вочы і жэстыкулюючы шырокай далоньню, пытаецца ён. — Шпінгалет! Каго яна можа нарадзіць, такая блыха? Хіба што другую блыху. Гэта ў біялагічным плане. А ў грамадска - палітычным?..

— Адстаўка! Хвост па пілітэканоміі... — самавыкрывальна напамінае Эрна.

— Грубіянка! — падказвае бліжэйшая да яе бляндынка.

Іншыя за сталом крычаць:

— Задзіра і насьмешніца!

— У сьценгазэце прадзёрнута!

— Пасправалася з рэктарам...

— Правільна. Усё правільна. Дзякуй за дапамогу. Суцэльны перажытак мінулага. І часткова будучага. А я кахаю яе. І ўсё! Дык вытлумачце, чаму? Вы! Філосафы! Маралісты! Біёлагі! Чаму, га?

Ён прытворна паціскае плячыма. Хлопцы наперабой штосьь спрабуюць давесьці. Адна Эрна вельмі хітра ўсьміхаецца пад яго рукой. Яна выдатна разумее гэта ягонае "чаму".

— Ну дык што-ж! Узялі? — дзеля прыліку пытаецца Гарбацюк і разьлівае рэшту. — Як кажуць, каб не апошнюю...

— Ну...

— А ўрэшце куды сьпяшацца? Пасядзім да закрыцьця. — Ён адстаўляе чарку і закурвае. Смачна зацягваецца. Пасьля ўглядаецца ў мяне.

— Гляджу, нешта невясёлы. Што, характар такі?

— Характар.

— Адкуль прыехаў?

— Ды тут недалёка. З-пад Мінска.

— Ага. Беларус, значыць. А дзе працуеш?

— У клюбе.

— Значыць, па культурнай лініі?

Мне непрыемныя гэтыя роспыты, і, каб іх прыпыніць, я зьвяртаюся да яго:

— А вы па якой лініі?



*Дзяўчына ў народным касцюме з вёскі Морач Клецкага раёна.*
*Фота М. Раманюка.*

**Некалькі вершаў — Натальлі Арсеньневай.**

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхай і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штадзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу, і наш народ!



## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Радасьць жаўранкам звоніць над хмарамі,
хай ня згледжу яе, не зьбяру...
Дні насталі важкія, змагарныя,
зноў
спрабуе расьці
Беларусь.
Зноў спрабуе,
із думкамі нашымі,
зь дзіўнай, кволаю музыкай слоў...
слоў,
што кпілі зь іх ворагі, страшылі,
што ледзь ветрам іх не замяло.
Наша ж мова —
цудоўная, сьпеўная,
ўмее сьпелым калосьсем шумець,
галасіць навальніцай улеўнаю,
верасьнёваю медзяй зьвінець.
Мова наша —
выкутая з золата —
не йржавее,
блішчыць,
зігаціць.
Гэта мова паэтаў і волатаў,
скарб, які нас трымаў пры жыцьці.
Каб ня мова,
даўно-б мы растаялі,
расплыліся-б імглой між чужых,
зьбеглі ў вырай гусінаю стаяю...
Але з мовай —
і мы будзем жыць.
Будзем жыць!
Днямі яснымі, новымі,
пойдзем, пойдзем з табой у гару,
наша жытная
і васільковая,
несьмяротная Беларусь!

## ВАРТА ЖЫЦЬ!

Пазьмятала даўно кволай жоўтай далоняй
восень пену лістоўя з пажоўклых сьцяжын.
Адцьвілі верасы,
ад'ірдзеліся клёны,
але-ж трэба і сяньня
змагацца і жыць!
Кажны з нас яшчэ-ж верыць у нешта сьвятое:
хто ў Хрыста,
хто у Край,
а хто — проста ў сябе,
і пад вейкамі смагі жыцьцёвай ня ўтоім
мы,
як нізка ні гнула-б нам гора хрыбет.
Варта жыць!
Варта вечна чагось спадзявацца,
чуцца часткай айчыны, малой, а жывой,
песьціць сьцерплыя пальцы адвечнаю працай,
разьвіваць слоў і чынаў бясконцы сувой,
і тварыць...
Заўтра-ж зь неба зарою крамянай
не зьляціць,
і ня выцьвіце зь нетраў зямлі.
Наша заўтра народзіцца з нашага сяньня,
з усяго, што нас цешыць,
і што нам баліць.
Калі-ж мо й давядзецца няўсьцішныя сэрцы
йшчэ ці раз нам сnапоўем злажыць на таку —
не бяда!
Ўжо нікому наш сьлед не зацерці
на гасьцінцах зямных,
нашай сілы — ня скуць!
Хай цьвітуць верасы,
хай мядзяняцца клёны,
хай мяцеляцца зімы над беляй сьцяжын.
Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім,
а для гэтага варта
змагацца
і жыць!

## ПРЫСЯГА

Беларусь!
Наша маці - краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня згінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расьцьвілы
супраць чорнае моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

## СТАЛЁВЫ ЗЬВЯЗ

Ня дось крычэць аб Беларусі
і захлынацца ўласнай сьлінай,
ня досыць верш слабы згарусьціць
і прысьвяціць яго краіне.
Ня той,
хто трубіць аб пачуцьцях
па цемнакуцьцях —
патрыёта.
Бяз чыну —
слова не скалмуціць
нат твані лужыны балотнай.
А што казаць,
яшчэ вось сяньня,
аб акіяне людзкіх душаў?
Іх,
хоць кругіч сабе да раньня,
сьпяваньнем жабім не ўзварушыш.
Ня словаў трэба,
а хаценьняў,
і сіл асілкавых, і згоды,
і гарту ўпартага,
каб сьцені
на шлях ня палі перашкодай.
Нат больш...
Каб справы не скалечыць,
каб не праспаць узноў сьвітаньня,
высілкаў трэ нечалавечых,
і процьмы цёплага каханьня.
Тады...
Тады мы зьвяз сталёвы
з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам,
і раз нарэшце моцным словам
ня нам,
а мы штось сьвету скажам!



— Я? Юрысконсульт. На паўстаўкі. Болей нявыгадна — пэнсію рэжуць.

— Зразумела. Пэнсіянер?

— Ды нешта падобнае. Пяцьдзесят два гады. Але ў мяне выслуга. Усяго дваццаць восем. З ільготнымі, вядома.

“Нішто сабе, як кажуць, пратрубіў чалавек! Дваццаць восем год салдацкае лямкі — ня жарты! У мяне тры і то паражываньняў на ўсё жыцьцё...”

— Эх шкада, піўка не заказалі! Духата такая.

Ён паварочваецца да залы і кліча афіцыянтку:

— Дзевушка! Дзевушка! На хвілінку...

Але “дзевушка” ня чуе або ня хоча пачуць і ідзе сабе між сталоў на кухню. Тады ён устае.

— Ты пасядзі. Я закажу ўсё-ж...

За сталом я астаюся адзін.

## 23

У хаце зусім цёмна (ці можа мне так здаецца) і вельмі людна. Так людна, што сэкунд некалькі я ня ведаю, куды ступіць ад парога. І я стаю, узіраючыся праз паўзмрок у невыразныя плямы твараў, бінтоў, людскіх постацяў на лаўках і на падлозе. У нос востра шыбае перакісам вадароду. Гэта абнадзейвае — значыць, мэдык тут ёсьць, будзе на каго паспадзявацца.

— Во яшчэ адзін зашчытнічак! — з лёгкім гумарком гукае нехта ад сьцяны. — Ну, як там: турнулі нямецкіх захопнікаў?

Я ня маю ахвоты ні да якой размовы. Тым больш з такім вось дасціпнікам. Але па нейкіх ягоных гульлівых нотках адчуваю, што тут ёсьць жанчына, і прыглядаюся ў паўзмрок, ці ня Каця?

— Адбіліся, — кажу я.

Ад чорнай круглай грубкі, ля якой поркаюцца салдаты, на мой голас павяртаецца нехта ў паўшубку. Сапраўды з-пад шапкі ўскідваюцца знаёмыя вочы Каці.

— А, младшой! А тут дружок ужо зусім нос павесіў. Думалі, хана табе.

Каця ўстае, і тады я бачу ў доле на разасланых шынялях Юрку. Ён ляжыць на сьпіне, без гімнасьцёркі, па грудзях туга спавіты бінтамі, і ледзьве прыкметна спрабуе ўсьміхнуцца мне куточкамі сваіх вуснаў.

На некага наступіўшы, не зважаючы на лаянку, я падаюся да сябры і нязграбна апускаюся ля яго на калена.

— Юрка! Юр... Ну, як табе? Лягчэй? Га, Юрка?

Я ўзіраюся ў яго шэры, без адзінай крывінкі твар з вострым, нейкім ня Юркавым носам. Без адказу адчуваю, справа яго дрэнь. Блага Юрку! І нават яшчэ як блага!

— Так, нічога... Лягчэй... — шэпча вуснамі Юрка.

У яго зацененых вачах на сэкунду загараецца радасьць, якая, аднак, зараз-жа і гасьне. Я ўсё гэта бачу. Я разумею... і я хачу яго

падбадзёрыць:

— Знаеш, адбіліся! Танкі падышлі. А то былі-б нам капцы. Цяпер мы цябе ў шпіталь. У першую чаргу, — кажу я, верачы, што адпраўлю яго. Цяпер я ўжо дамагуся. Але тут побач нехта недаверліва сапе:

— Глядзі, адправіш! На самалёце хіба?

— Чаму на самалёце? — няўцямна пытаюся я, і раптам гэтая рэпліка мяне насьцярожвае. Я павяртаю галаў — пад сьцяной ля самых дзьвярэй з вінтоўкаю між каленяў сядзіць ды смокча цыгарку нейкі салдат. І побач (глядзі ты: зноў тут як тут!) дрэмле мой немец.

— Чаму самалётам? — падазраваючы нядобрае, пытаюся я. — Машынай, падводай адправім. Бачыце, цяжка паранены?!

— Гм!.. Мы-то бачым. А вось ты...

— А што? Што я ня бачу?

Я ўжо гатовы ўзарвацца, бо стрыманасьці мне не хапае, не трываюць нэрвы. Што тут яшчэ здарылася?

— Трапілі, во што. Між молатам і кавадлам...

— Ну ты там! — строга раздаецца з кута ад стала знаёмы голас. — Пракрашчай разгаворчыкі!

Ну, вядома, тут і капітан Сахно... У цёмным куце. Яго адсюль амаль не відаць, — ён-жа, мусіць, бачыць усіх. І нешта ён тут дужа па-начальніцку прыкрыыквае — мусіць, старшы па званьню. Як ад болю, сьцяўшыся ад нядобрага прадчуваньня, я пазіраю то на яго, то на салдата ля парога. Але той змаўкае і толькі падміргвае мне адным вокам:

— Паняў?

Так, зразумеў. Ведама-ж, няхітрая справа зноў трапіць пад удар, калі ў тыле чорт ведае што. Чаго тут чакаць, апроч як удару, акружэньня, разгрому. Але-ж ёсьць і нашыя танкі. Гэта ім не сорак першы год. Не, мабыць, панікаваць яшчэ рана. Яшчэ пабачым, хто трапіць на кавадла...

— Ладна, годзе вешаць насы, — кажа Каця, прабіраючыся ад дзьвярэй. Яна нясе кацялок з гарачай вадой. З-пад вечка густа ідзе пара. — На во, напаі гарачым. Ды сагрэць яго трэба. А ну, славяне, у каго кажух лішні? — гукае яна да параненых. — Тут цяжолага сагрэць трэба.

— Бяры мой, — чуецца ў цемры. — Усё роўна не ўсьцугну. Толькі во рукаў адарваны.

— Ладна, давай.

Нехта з забінтаваным плячом падае ёй паўшубак. Каця клапотна ўхутвае ім Юрку. Затым я, разьліўшы трохі вады, паю сябра. Яго сьцятыя зубы ціха лязгаюць па алюміневым краі кацялка. Напіўшыся, Юрка часта ды трудна дыхае.

— О так... Цяпер лепей...

— Ну і добра, — кажа Каця. — Сагрэйся і засьні. Сон лечыць лепш за прафэсара.

— Ладна. Дзякуй... — шэпча Юрка, і ягоныя пасінелыя вейкі зьнямогла заплюшчваюцца.

Каця павяртаецца да мяне:

— А як твая нага, младшой? А ну, пакажы. — Яна рашуча і бесцырымонна лапае маю бедалагу-нагу і сварыцца: — Гэта называецца перавязка! Паглядзі, што тут у цябе робіцца!..

Я і сам ведаю, што там робіцца. Бінты мае раскісьлі ад сьнегу, спаўзьлі, развязаліся. Усё там скрываўленае і мокрае. Хваравітачуйная да цьвёрдых Каціных рук, нага, мусіць, яшчэ і памарожана. Пальцы, здаецца, зусім ужо анямелі. Каб не пераживаць залішне, я, сьцяўшы зубы, адварочваюся. Насупраць пад сьцяной сядзіць "мой" немец. Трымаецца ён ціха, нават баязьліва, з пакорай на твары. На ягоных плячах усё той-жа шынялёк, на галаве казыркастая шапка. Рукамі ён ашчаперваё калені і быццам дрэмле. Ягоны канваір ля парога, зарослы шчаціньнем дзядзька, дакурвае цыгарку, і нехта са змроку просіць:

— Сараковачку пакінь, браток. Га?

Салдат яшчэ разы два цмыгае і, ступіўшы між целаў на падлогу, цягнецца да выстаўленай зь цемры рукі. Мае вочы пачынаюць ужо што-колечы бачыць у гэтым сутоньні. Між салдатаў я пазнаю на лаўцы ўратаванага намі лётчыка. Ён нярухома ляжыць, бы няжывы, пад сваімі бінтамі і толькі час ад часу стрымана стогне. Але стогнуць многія. Ціхіх стогнаў, крэкту і вохаў тут поўная хата.

— А ну, назад! — зараз-жа раздаецца з-за стала каманда Сахно. — Не забывайцеся, да каго прыстаўлены!

Салдат вяла апраўдваецца:

— Ды не ўцячэ! Я-ж усё бачу.

— Дрэнна бачыце!..

У гэты час зусім побач са мной пачынае варушыцца нехта ў паўшубку з настаўленым каўняром. Здаецца, ён дагэтуль драмаў, прыхінуўшыся да сьцяны, і цяпер асіпла са сну гаворыць:

— Не турбуйцеся. Я пагляджу.

Затым адкашліваецца і, зусім як немец, нешта скарагаворкай зьвяртаецца да палоннага. Гэта мяне зьдзіўляе: глядзі ты, ведае па-нямецку! На фронце такое здараецца ня часта. Немец ціха нешта адказвае, і мой сусед абвяшчае:

— Ён гаворыць, што сам здаўся ў палон і назад перабягаць не зьбіраецца.

— Прыпёрлі, дык здаўся. А наогул я не пытаюся, што ён там гаворыць! — суха абрывае яго Сахно. — І вы лепш памаўчалі-б, лейтэнант.

Лейтэнант бяскрыўдна змаўкае, а маю нагу раптам працінае вострыя нутраны боль. Я незнарок скаланаюся. Каця нязлосна прыкрыкае:

— Ціха, ты! Што брыкаешся, як дзеўка!

— Ого, так ірванула...

— Ладна. Стрываеш. А галава як? Нішто?

—Галава нічога, — кажу я, абы не чапаць раны. Каця пачынае туга аббінтоўваць ступню, і я зноў пазіраю на лейтэнанта, які пачы-

нае ладзіць сабе закурку. Ён абуджае ў мяне цікавасьць. Тое, што ён так складна загаварыў па-нямецку, яго тон і яшчэ нешта амаль незаўважнае ў яго голасе няўлоўна выдае ў ім інтэлігэнта, відаць, прызванага з запасу. Гэтыя людзі заўжды выклікаюць ва мне нейкую павагу, бо ёсьць у іх штосьці цікавае і значнае, чаго часьцяком не хапае кадравым. І хоць няёмка мне набівацца цяпер у знаёмства, усё-ж я пытаюся:

— Вы не са сто адзінаццатай?

Лейтэнант сьлініць паперку і ня вельмі спрытна склейвае зь яе цыгарку. Адразу відаць, што да самакрутак яшчэ ня прывык.

— Не. Я з упраўленьня арміі. З газэты.

— Што, з рэдакцыі?

— Угадалі. А што вас зьдзіўляе?

— Ды так, нічога, — адказваю я, хоць сапраўды трошкі зьдзіўлены такім знаёмствам. Мне яшчэ не даводзілася сустракаць журналістаў, тым болей на фронце. І я проста не магу ўжо схаваць мае цікаўнасьці да гэтага чалавека. А ён, здаецца, абыякавы да ўсяго тут. Засяроджана прыкурвае ад запалкі і смачна зацягваецца. Шчокі яго, калючыя ад чорнага маладога шчаціньня, здаюцца глыбока запалымі. Хударлявы, нейкі нават хвараваты твар няпрыгожы. Хоць па званьню гэты чалавек амаль раўня нам, па ўзросту ён старэй за нас год на пятнаццаць. Я кідаю позірк на Юрку і таксама лаўлю ў ягоных вачах стоены водбліск цікаўнасьці. Дзіва што: я памятаю, як некалі Юрка расказваў пра свае даваенныя мары стаць журналістым...

Лейтэнант моўчкі курыць, і размова наша ня вяжацца.

— Ну вось і ўсё, — кажа Каця нарэшце абрываючы бінт. — Беражы рану. А то столькі бруду набілася!..

Яна зазірае на Юрку, але вочы ў таго ўжо заплюшчаны, і дзяўчына сьцішана, толькі мне аднаму, паведамляе:

— За ім глядзець трэба. Слабы ён. Каб часам не...

Я ўздыхаю. Здаецца мне, Юркавы вейкі ледзьве ўздрыгваюць у цемры. Мабыць, ён прыкмячае нашую на сабе ўвагу.

— Нічога. Як-небудзь...

— Сястра! Мне во перавязаць трэба! — кліча хтось Кацю.

—Раней мне. Я ўжо даўно чакаю.

— Зараз, зараз, родненькія. Ня ўсім адразу.

Каця прабіраецца між людзей далей, а Юрка, прыкметна напружваючыся, каб стрымаць стогн, пытаецца:

— Што, пяхоты ў немцаў багата?

— Знаеш, пяхоты ня было, Юрка. Калі-б пяхота, нам-бы не ўтрымацца. А так з тузін танкаў. Двох падпалілі.

Юрка расплюшчвае пакутніцкія вочы і нерухомым поглядам устаўляецца кудысь у змрочнае нявысокае падстольле.

— Ведаеш, дэсант — гэта сіла. Калі давядзецца ўдзельнічаць, трэба як мага... бліжэй пад'ехаць. Галоўнае... не сьпяшацца саскокваць. Чым бліжэй да іх, тым... лепей. Я ведаю...

— Ну, вядома, — згаджаюся я, хоць у танкавым дэсанце яшчэ ня

быў. Але я бачу, як трудна Юрку гаварыць: засмяглыя яго вусны няслушна шавеляцца.

— Так... Дай вады. Пячэ вельмі, халера...

Я прыўзьнімаю яго галаву і нагінаю кацялок. Юрка, аднак, бярэ ў рот маленькі, трудны глыток.

— Блага? Ты ляжы. Маўчы лепш.

— Ладна...

Юрка пакутна апускае вейкі і выдыхае.

— Цяпер я няхутка. Стукнула як мае быць... Цяпер паваляюся. А калі будуць машыны?

— Машыны? Будуць, Юрка. Ты пацярпі трошкі. Я чуў, там генерал распараджаўся наконт параненых.

— Ну што-ж... — цярпліва згаджаецца Юрка. — Што гэта я хацеў табе сказаць?.. Будзеш ваяваць... раздабудзь эмга сорак два. Не глядзі... што нямецкія. Гэта кулямёты... Класныя... Навучыш хлопцаў... лепш за станкачы будуць. Патронаў... у наступленьні хопіць. У мяне чатыры было. Падабраў...

Сэнс ягоных апошніх слоў наводзіць мяне на пэўнае падазрэньне. Падобна на тое, што ён ужо ня мае надзеі выкарыстаць сваё ўменьне і хоча перадаць яго мне.

— Добра, Юрка. Яшчэ паваюем. І дзегцярамі і эмга. Не праймайся, Юрка!

— Та-ак! І яшчэ трэба страляць. У наступленьні. А то... яны нас нішчаць, а мы... Слабы ў нас агонь. Стралковы. Разумееш? Слабіна...

Ён змаўкае, і я не адзываюся. Здаецца, ён засынае. Я толькі пільна ўзіраюся ў ягоны схуднелы за гэты дзень твар, які нярухома шарэе на скамечаным сукне шыняля. Думка-сумненьне точыць мяне: ці выберамся адсюль? Я-то яшчэ як-колечы маюся. А вось Юрка... Эх, Юрка, Юрка!..

Я пачынаю прыслухоўвацца да сьцішанай гаманы ў хаце, да гукаў знадворку. Цяпер у такім нашым становішчы ўсё мае сваё значэньне... Я думаю, што параненых пара-б адправіць у тыл, калі-б была дарога. Але калі ніхто аб тым ня турбуецца, дык, мабыць, сапраўды ходу адсюль няма. Тады трэба чакаць. Толькі чаго дачакаемся?

За вакном неяк адразу віднее — гэта ўзыходзіць месяц. Край яго ярка ўразаецца ў замутнелую ад прымаразку шыбу. У хаце таксама сьвятлее. Толькі па кутах і ў падстольлі туляцца мяккія, шэрыя прыцемкі.

Лейтэнант пад сьцяной усё-ж ціха перагаворваецца з немцам. Я прыслухоўваюся, і карэспандэнт, заўважыўшы гэта, гаворыць:

— Ён кажа, што вы яго ў палон узялі?

— Ня ўзяў. Толькі вёў. Ды не давёў.

— Чаму?

— На танкі наскочылі. Было трое, ды вось адзін застаўся.

Лейтэнант вымаўляе да немца нейкую доўгую фразу. Немец ахвотна і падрабязна адказвае. З іхняй гаманы я разумею толькі некалькі слоў: лерэр, Бунцлаў, яфрэйтар. Лейтэнант выслухоўвае і паваротаец-

ца да мяне.

— Яго прозьвішча Энгель. Ён сельскі настаўнік з Сілезіі. А яго камарад быў нацыстам. Той выпадкова трапіў у палон. Звычайна, такія не здаюцца.

І яны напаўголаса перагаворваюцца зноў.

Я міжвольна прыцінаю дыханьне, спадзеючыся пачуць нешта цікавае. Аднак разумею па-нямецку я не багата і не магу разабраць сэнсу іх хуткіх невыразных фразаў. Здаецца, яны кранаюць філасофію, бо я чую знаёмыя імёны: Кант, Ніцшэ, Шапэнгаўэр. Лейтэнант пры тым ажыўляецца. Энгель адказвае коратка, нярэдка паціскаючы плячыма.

Аднак яны выпускаюць з-пад увагі Сахно, які, не марудзячы, напамінае аб сабе.

— Лейтэнант, падыдзіце сюды! — стрымана кліча ён з-за стала.

— Вы хочаце мне нешта паведаміць? — пытаецца лейтэнант.

Сахно, аднак, зацята маўчыць, і лейтэнант, памарудзіўшы, нетаропка ўстае з-пад сьцяны.

З хвіліну ў іх там адбываецца, відаць, ня вельмі прыемная размова, якой мне адсюль ня чуваць. І калі лейтэнант вяртаецца на сваё месца, па ягоным выглядзе я разумею, што гутаркі з немцам у іх ужо ня будзе. Лейтэнант шматзначна ўздыхае.

— Да, дзіўная камандзіровачка!.. Паехаў напісаць нарыс пра наступленьне. Ды вось абярнулася, што сам на аловак трапіў...

— А вы напішыце і пра гэта.

Лейтэнант соўгае бровамі.

— Пра гэта не напішаш.

працяг будзе.

---

## БЕЛАРУСЫ

Нас катавалі, распіналі
На дыбах, плахах і крыжах.
Мы з нежывымі ўваскрасалі
З вялікай помстай у вачах.
На рубяжах сьвятла і ценяў,
На пакалечанай зямлі
Мы ўзьнімаліся з каленяў,
Не паміралі мы — жылі!
Сьпявалі, плакалі уголас
Сярод галечы і балот.
Нібы прыбіты градам колас,
Да сонца браўся мой народ.
Адкуль у нас такая сіла,
Магутная, як крыгалом?
Нас і палолі, і касілі,
Цапамі войнаў малацілі,
А мы расьцём, а мы жывём!

Алег Салтук

Я. Колас

# У ГЛЫБІ ПАЛЕСЬСЯ

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

## НА НОВЫМ МЕСЦЫ

працяг

### XIII

Поезд падыходзіў пад Пінск.

Яшчэ ня бачаныя краявіды Пінскага палесься, залітыя сьвятлом верасьнёўскага сонца, атуленыя тонкаю павалокаю сінечы, поўныя сваеасаблівага хараства, першабытнай дзікасьці, вынікалі перад Лабановічам, захаплялі сваімі чарамі, неасяжнымі прасторамі зямлі і роўнадзьдзю паземаў, што зьліваюцца з небам ці хаваюцца за цёмнасіняю стужкаю бясконца далёкіх лясоў. А на гэтай роўнядзі вынікалі палескія вёскі, дзе над стрэхамі будынкаў высока ўзьнімаліся вязы, ліпы і клёны, абсыпаныя золатам восені. Бліскучым срэбрам вывіваліся рэчкі ў нізкіх берагах, раскрываліся шырокія разлогі балотных нізін, заросшых дзікаю травою, аерам і чаротам. Па гэтых дрыгвяных балоцінах, дзе, здавалася, і вады ня было, прапіхаліся з чаўнамі рыбакі-палешукі ў сваёй самабытнай вопратцы і шырокаполых капелюшах. Месцамі рассьцілаліся цэлыя плошчы жоўтых пяскоў, ашлякованых кучаравымі маладымі хвойкамі. Малюнкі борзда зьнікалі, замяняліся новымі, і ня было калі спыніцца на іх, бо поезд імчаўся вельмі шпарка, мінуўшы апошні разьезд перад Пінскам.

Пасажыраў у вагоне было нямнога, і Лабановіч пераходзіў ад аднаго вакна да другога, каб разгледзець гэтую мясцовасьць і хоць прыблізна адгадаць, дзе яго новая школа. У вагоне ён распытаўся аб сваіх Выганах у тутэйшых людзей. Аказалася, што яго новае месца ў пяці вярстах ад Пінска, і гэта вельмі ўзрадавала маладога настаўніка. І яшчэ даведаўся ён, што воласьць ад школы зусім блізка. Яму тут і далі дараду, як даставіцца да Выганаў. Для гэтага трэба толькі трапіць на Каралінскі рынак, а там, напэўна, будуць выганаўскія сяляне і за вельмі сходную цану, а то і проста дарма завязуць яго на самае месца.

І гэты ясны дзень, і гэтыя краявіды, поўныя паэзыі, і гэтыя весткі аб новым месцы, сабраныя ў дарозе, — усё гэта памацняла той добры настрой, з якім пад'язджаў Лабановіч да Пінска. З яго зьнімаўся цяпер і непакой і клопат знайсьці сваю школу, дабрацца да яе.

З чамаданам у руках паціснуўся ён на станцыю ў густым патоку людскога тлуму. Прайшоў багатую і прыгожую залю першай клясы, прайшоў з выглядам чалавека бывалага, для якога ўсё гэта прыгоства і раскоша як-бы былі самымі звычайнымі рэчамі, хоць ня мог не заўважыць усю неадпаведнасьць свайго ўласнага адзеньня, у дадатак з гэтым таньненькім чамаданчыкам, з убранствам залі і тае шыкарнае публікі, што так важна сядзела за пышнымі сталамі. Усё-ж ён пачуваўся, як чалавек, папаўшы ня на сваё месца, яго ўласная асо-

ба здавалася тут занадта мізэрнаю і нязначнаю. Вось чаму ён пачаў шпарчэй праціскацца, трымаючыся больш каля сьцяны, каб не замінаць нікому, каб не вярнуў яго назад гэты высокі і грозны швэйцар у бліскучых галунах. І толькі прайшоўшы залю і апынуўшыся ў калідоры, уздыхнуў ён лягчэй. Цяпер перад ім стаяла задача: знайсьці Каралінскі рынак. Горада ён ня ведаў, бо даводзілася быць тут першы раз. Хвіліну пастаяў на ганку перад пад'ездам, дзе тоўпіліся возьнікі, стараючыся перахапіць пасажыраў.

"Лепш будзе ўзяць возьніка", — падумаў Лабановіч. Зрушыў з месца, выбраў возьніка пабядней і загадаў ехаць на Каралінскі рынак, што быў на другім канцы горада.

Праехаўшы некалькі вуліц і завулкаў, возьнік спыніўся — тут і ёсьць Каралінскі рынак. Не сьпяшаючыся і разглядаючыся, пачаў Лабановіч хадзіць па рынку, шукаючы сялянскіх падвод. Сям-там пападаліся тыповыя постаці палешукоў і паляшучак, надзвычайна паважных і нават гордых, бо яны так зьняважліва паглядалі на ўсё што ня было палешуком, і ня надта ахвотна ўступалі ў размовы, якія ня мелі беспасярэдніх адносін да іх уласных асобаў. Па іх думцы, хто не паляшук, той басяк або проста жулік.

— Скажыце, будзьце ласкавы, — зварачаўся настаўнік да некаторых сялян: — Ці ня ведаеце, дзе-б тут знайсьці каго з выганаўскіх?

Запытаны паляшук разважна падымаў вочы на настаўніка, аглядаў яго і адказваў не адразу. І з гэтага адказу часамі не выплывала ніякай пэўнасьці — буркне, каб адвязацца. Але, разглядзеўшы Лабановіча і нешта разважыўшы, часамі гэты-ж паляшук, зноў спаткаўшы яго і даведаўшыся, што гэта настаўнік, расказваў ужо болей падрабязна, дзе спыняюцца выганаўцы, дзе іх можна знайсьці. Аказалася, што іх тут зусім ня відаць было.

Патупаўшы па рынку і не знайшоўшы нікога з Выганаў, Лабановіч старгаваў за рубель возьніка. Хоць заплаціць прыходзіцца дорага, затое-ж ехаць будзе выгодна.

Рэсорная павозка, мінуўшы брукаваныя траскія вуліцы, мякка пакацілася па гладкай пыльнай дарозе, дзе пападаліся часамі прыгожыя адзінокія ліпы і цэлыя купы разложыстых вязаў каля паселішчаў, параскіданых досыць густа ў баку ад дарогі.

Лабановіч уважна прыглядаўся да ўсяго, што пападала ў поле зроку, стараючыся заўважыць кожную драбніцу, як-бы гэта мела для яго нейкае надзвычайна важнае значэньне. І гэтая мясьціна яму адразу спадабалася. Зямля навокал была добрая, ураджайная, і народ, відаць, жыў тут заможна. А надвор'е стаяла ціхае, яснае. Хоць дзень ужо зьмяняўся надвячоркам, але было яшчэ досыць горача. Неба, злёгку агорнутае танюсенькаю белаватаю павалокаю, як-бы шоўкаваю кудзелькаю, здавалася, ніжэй нахілілася над гэтымі паземамі, каб папесьціць іх пацалункамі сонечнага сьвятла.

Мінуўшы прыдарожны слуп з дзяржаўным гэрбам і табліцаю, дзе значылася: "Вёска Выганы, двароў 73 (прычым нейкі жартаўнік сьцёр літару "д" у слове двароў), мужчын 269, жанчын 284", возьнік спусь-

ціўся з горкі і павярнуў направа. Зараз-жа за Выганамі на шырокім пляцы, што разьдзяляў дзьве вёскі, Выганы і Высокае, паказалася школа, прыветна бялеючы шырока раскрытымі аканіцамі. Лепшай пазыцыі для яе, як паміж дзьвюх невялічкіх вёсачак, здаецца, нельга было і знайсьці. Досыць вялікі прышкольны агарод, праўда, незасеяны і запушчаны, прымыкаў да плятня казённага лясьнічага. Уздоўж плятня цягнуўся цэлы рад высачэзных вязаў, аддзяляючы прыгожы парк лясьнічага ад школьнага пляцу. Лявей гэтага пляцу раскінулася вёска Высокае, дзе з-за дрэў весела выглядалі акуратныя чаротавыя стрэхі сялянскіх хат і клуняў. Ніжэй школы, на адной з ёю лініі, выглядала з-за саду дзякова сядзіба і царкоўны дом, дзе жылі цяпер дзьве папоўскія сястры, якіх абмінула замужства, хоць надзеі на яго яны яшчэ ня трацілі. У кроках ста ад школы прасторны пляц-выган досыць крута спускаўся да рэчкі Піны, за якою ляжалі неасяжныя прасторы балот, дзе рос густы і незвычайна высокі чарот. Зарэчная балотная роўнядзь зьлівалася з небам і, здавалася, ня мела канца-краю.

Усе гэтыя малюнкі абегла мільгануліся перад вачамі настаўніка, але ня было калі затрымацца на іх з тою ўвагаю, якой справядліва яны заслугоўвалі, бо возьнік спыніўся перад прасторным школьным ганкам.

Лабановіч саскочыў з павозкі і ўзьбег на ганак. Дзьверы былі замкнёны, на стук ніхто не азваўся, але вокны ў кватэры настаўніка былі расчынены насьцеж. Заліты сонцам пакойчык выглядаў вельмі прыветна. Адтуль пахла сьвежаю фарбаю. Пад вокнамі ляжалі кучкі друзу. Відаць, тут быў нядаўна рамонт і яшчэ не пасьпелі зрабіць парадку.

— Пастойце трошкі, — сказаў Лабановіч да возьніка, а сам пабег у двор, каб зайсьці ў школу другім ходам.

Каля дзьвярэй кухні стаяла замурзаная дзяўчынка гадоў пяці і зьдзіўленымі вочкамі пазірала на незнаёмага чалавека. На дзьвярах вісеў замок.

— А дзе твая маці? — запытаў дзяўчынку Лабановіч.

Дзяўчынка правяла па носе каравым рукавом.

— Пайшла да паненак, — адказала яна і кіўнула галавою ў бок папоўскага дому.

— А мама твая тут жыве?

— Эгэ!

— А бацька твой дзе?

Дзяўчынка пазірала на настаўніка, ня ведаючы, што адказаць на гэтае запытаньне.

— Ты, можа, паклічаш маму?

— Яна, мусіць, на сяло пайшла, — прамовіла разважліва дзяўчынка. Відаць, ёй не хацелася шукаць маткі, ці яна проста добра ня ведала, куды тая пайшла. Яна адвярнулася ў другі бок, перастаўшы цікавіцца незнаёмым чалавекам, а можа, каб паказаць, што гаварыць тут болей з ёю няма чаго, і засьпявала песеньку.

Лабановіч пайшоў назад, раздумваючы, што рабіць далей. Вышаўшы з двара школы, ён заўважыў новую асобу. Каравы стары чалавек стаяў каля возьніка. Угледзеўшы настаўніка, гэтая асоба ў заношаным паліце на гарадскі лад, доўгавалосая, з неахайным хмызам на твары накіравалася ў бок Лабановіча.

— Педагог? — разьвязна запытаўся незнаёмы чалавек, асьвяціўшы свой хмыз усьмешкаю, і падаў руку.

— Так, я назначаны сюды настаўнікам, — адказаў Лабановіч, падаючы руку. Далонь і пальцы ў незнаёмага чалавека былі нейк ненатуральна вывернуты і напаміналі лапу вялізнага крата.

— Ну, будзем знаёмы: ваш сусед, псаломшчык Бацяноўскі.

Нельга сказаць, каб Лабановіч быў вельмі здаволены такім суседствам: дзяк быў занадта каравы і апушчаны, і ў яго твары было нешта такое, што не гарнула да гэтага чалавека.

— Дык як ваша прозьвішча? — запытаў дзяк.

— Лабановіч.

— А вы можа з духоўных? — цікавіўся далей дзяк.

— Не, я другой пароды.

— З сэмінарыстаў?

— Скончыў настаўніцкую сэмінарыю.

— А вы разумееце царкоўныя сьпевы?

Гэта распытваньне пачынала злаваць настаўніка, тым болей, што яго чакаў возьнік і ён ня высьніў яшчэ, як увайсьці ў школу. І на апошняе запытаньне ён адказаў:

— А вось зачынайце "Іжэ Херувімы", дык я вам зараз падцягну.

— І нотнае ведаеце? — не адставаў дзяк.

— Калі трэба, дык і па нотах засьпяваю.

— Вось гэта добра! — зарадаваўся дзяк. — Айцец Мікалай прасіў інспэктара назначыць сюды такога настаўніка, каб мог наладзіць царкоўны хор.

Гэта было зусім ня пад густ Лабановічу, бо па часьці царкоўных сьпеваў ён чуўся вельмі нямоцна, як і наогул у гэтай галіне мастацтва.

— Скажыце, калі ласка, — перапыніў ён дзяка, бо той яшчэ хацеў паставіць нейкае пытаньне, — як знайсьці тут валасьць?

— А вот праехаць сялом на той бок — вярсты ня будзе.

— Ну, то бывайце здаровы!

Пакланіўся дзяку і крута павярнуў да возьніка.

— Праедзем у валасьць!

Яны паехалі, а Бацяноўскі пазіраў усьлед і ківаў галавою. Відаць, настаўнік не спадабаўся дзяку, бо як-жа асьмеліўся сказаць яму, старому чалавеку, зачынаць тут, на выгане, "Іжэ Херувімы"? Трэба будзе пагаварыць з а. Мікалаем.

У сваю чаргу сустрэча і размова з гэтым дзяком трохі папсавала настаўніку яго добры гумар. Асабліва не спадабалася яму, што а. Мікалай прасіў інспэктара назначыць сюды сьпевака. Ён падумаў аб а. Мікалаю: што гэта за чалавек такі? І прыдзецца-ж да яго зайсьці гэтымі днямі. Але ўсё гэта хутка згладзілася, сьцерлася з памяці, і

ён з вялікаю зацікаўленасьцю разглядаў двары тутэйшых сялян. У сяле была адна толькі вуліца, а будынкі далёка цягнуліся ў глыб двароў. Мінулі цэркаўку і новы дом сьвятара. Яшчэ праехалі некалькі двароў і павярнулі да валаснога праўленьня.

На ганку перад зборняю спаткаў Лабановіча валасны стораж дзед Піліп. Гэта быў каржакаваты, крэпкі і ўвішны яшчэ старычына з доўгім чырвоным носам і вострымі, пранізьлівымі вачамі.

— Дзень добры, дзеду!

— Дзень добры, панычу!

— Можна пабачыць пісара?

— У канцылярыі паныч сядзіць. А вы-ж хто будзеце? — запытаў дзед.

— Настаўнік вашай школы.

— А, дык гэта паныч — настаўнік!?

Дзед Піліп, здавалася, зарадаваўся, што прыехаў настаўнік. Ён прыветна засьмяяўся і, як нейкаму даўно чаканаму госьцю, шырока расчыніў дзьверы.

— А наш паныч такі казаў, што павінен скора прыехаць новы настаўнік. Вось вы і прыехалі.

Цікавы дзед, — думаў Лабановіч, разглядаючы самабытную постаць дзеда Піліпа.

— Дайце ваш чамадан, я занясу яго ў пакой для прыезджых.

Дзед узяў чамадан з рук настаўніка, паказаўшы рукою на канцылярыю.

## XIV

Прайшоўшы прасторную зборню, чыста падмеценую, але ўсё-ж брудную, бо на падлозе было ня менш, як на корх, засохшай гразі, нанесенай сюды з усіх канцоў воласьці, Лабановіч адчыніў дзьверы ў канцылярыю. Гэта быў сьветлы і таксама прасторны пакой, разгароджаны балясамі, за якімі стаяў доўгі стол, абіты цыратаю. Над ім са сьцяны пышліва схіляліся строгія, размалёваныя цары і царыцы ў пазалочаных рамах. За сталом сядзелі дзьве асобы. Памочнік пісара быў яшчэ зусім малады бязвусы хлапчук з маленькімі шэрымі вочкамі, хітрымі і трохі насьмешлівымі. Белая манішка і прылізаныя валасы казалі аб яго зухаватасьці, а хітрыя вочкі і жулікаватая ўсьмешка сьведчылі аб здольнасьцях вывуджваць грыўні і саракоўкі з паляшуцкіх кішэняў. Другая асоба — сам пісар, таксама малады, але больш сталы. У пісара былі чорныя вусы, праўда, кароткія, і рэзка азначанае месца барады, заросшае кароткаю густою шэрсьцю, невялікі задзёрты нос і прыплюшчаныя блізарукія вочы, прыкрытыя цёмнымі акулярамі. Пісар сядзеў, нізка спусьціўшы ў паперы галаву, і нешта пісаў.

Лабановіч спыніўся каля балясаў і прывітаўся.

Памочнік спыніў работу, кіўнуў настаўніку галавою і чакаў далейшага выясьненьня справы. Пісар не адрываўся ад паперы.

— Выбачайце, што я перабіваю вам работу, — загаварыў Лаба-

новіч і адрэкамэндаваўся.

— А-о-о! — азваўся тады пісар, борзда ўстаючы і праводзячы настаўніка за балясы. Тут ён падаў крэсла і папрасіў Лабановіча сесьці.

— Школа мая аказалася замкнутаю з усіх канцоў, і я ніяк ня мог туды ўвайсьці. Прыехаў да вас, каб навесьці спраўкі. Дзе-ж мне прыпыніцца?

Пісар засьмяяўся.

— І школа, кажаце, ёсьць, а спыніцца няма дзе. Ну, нічога, усё будзе добра.

— Раз ужо заехалі да нас, то ўсё роўна, як да сваякоў папалі, — у тон пісару дадаў памочнік.

— У сваякоў ня надта ўжо цікава затрымоўвацца, — засьмяяўся Лабановіч. — А ў школе, здаецца, рамонт быў?

— Быў, быў! Я пастараўся ўжо адштукаваць вам кватэрку на пяць з плюсам.

Пісар, як відаць, стараўся пусьціць трохі пылу ў вочы, і ўсе важныя мерапрыемствы ў значнай меры прыпісваў сабе. Калі ён гаварыў, дык нейк падціскаў губы і дробненька трос галавою. Пісарскае самахвальства адразу кідалася ў вочы. Каб яшчэ больш заахвоціць яго, Лабановіч тут-жа падзякаваў і пахваліў яго за добрыя адносіны да школы, зазначыўшы, што такіх слаўных пісароў ня надта многа на сьвеце.

— Ну, што вы кажаце? — Адразу відаць было, што гэта пісару спадабалася. — У нас з настаўнікам заўсёды былі самыя лепшыя адносіны, школа ад нас ні ў чым не цярпела, — важна сказаў пісар і патрактаваў Лабановіча папяросаю.

— Дайце ўжо і мне пусьціць дым з прычыны такога важнага здарэньня, — працягнуў руку да пісаравых папярос памочнік, бо звычайна пісар ухіляўся частаваць яго папяросамі, хоць і быў лібэралам.

Лабановіч зноў пачаў гутарку.

— А пры школе-ж, здаецца, жыве хтось?

Пісар і памочнік зірнулі адзін на другога і нейк хітравата-памаўзьліва пасьміхнуліся.

— Жыве там... старожка.

— Дык гэта, мусіць, яе дзяўчынку бачыў я там каля кухні?

Пісар выпускае дым і адначасова выдае скрозь прыцятыя губы нейкі спэцыфічна свой гук “псс”, трасучы галавою.

— Так, гэта яе дачка Юста, а скора і... сын будзе... напэўна, сын, мяркуючы па бацьку.

Пісар і памочнік зноў пераглядаюцца і сьмяюцца.

— Мітрафан Васільевіч не павінен даць маху, — дадае памочнік, і маленькія вочкі яго амаль зусім засланяюцца сьмехам.

Лабановіч глядзіць на іх, дагадваецца аб нейкай рамантычнай гісторыі. Ён адчувае, што гэта гісторыя стане зараз вядома.

— А хто такі Мітрафан Васільевіч?

— Гэта ваш папярэднік.

— А... Ну, цяпер я ведаю, у чым тут справа.

— Нашкодзіў, а сам у Пінск уцёк.

І пісар зноў пачаў сьмяяцца.

Няцікава было весьці далей гутарку ў гэтым тоне і калупацца ў людскім брудзе. Лабановіч рад быў-бы сядзець цяпер у сваёй школе. Хацелася асталявацца там і пачаць нешта рабіць, разабраўшыся ў новай абстаноўцы.

Дзён тры Лабановічу ўсё-ж-такі прышлося пабыць у валасьці на кватэры пісара, пакуль школа прыводзілася ў парадак. Праўда, няшмат патрэбна было, каб зрабіць гэта: выслаць некалькі жанчын памыць падлогу ды прыбраць друз каля школы. Усё гэта абяцалі выпаўніць на гэтых днях. Астаноўка была толькі за старастам Бабічам, які павінен быў выправіць на работу жанчын. Але староста займаўся дзесь іншаю справаю.

Гэтыя дні Лабановіч жыў і сталаваўся ў пісара. Ён быў чалавек халасты, гасьцінны. Пры ім жыла старая маці. Родам яны былі са Случчыны, і Лабановіча лічылі сваім чалавекам. Апрача таго, старэйшы пісараў брат быў таксама настаўнікам на Піншчыне.

Будынак валаснога праўленьня стаяў на горцы над самаю Пінаю. Адгэтуль адкрываецца надзвычайна шырокі і прыгожы від на зарэчную частку. Каля самага сяла праходзіць шырокая дуга ракі. Яе хутчэй можна прыняць за затоку, а не за самую рэчку, бо вада цячэ вельмі ціха. Круглыя зялёныя лопухі купаюцца ў ёй, калышацца расянка на тонкіх доўгіх ніцях-сьцяблінах.

Адхонны бераг Піны застаўлены чаўнамі і чайкамі-душагубкамі. Быстра сьлізгацяць душагубкі па люстранай вадзе пад лоўкімі ўзмахамі вёсел прывычных палешукоў і паляшучак. Вось з-за рачных заваротаў выплываюць рыбакі са сваімі снасьцямі; сур'ёзныя, павольныя постаці. Селянін-гаспадар шыбуе з таго берагу, з душагубкі зьвешваюцца махрыстыя пукі чароту і жмуты жорсткай асакі. Гоніць чайку грабец. На другім канцы сядзіць са стрэльбаю паляўнічы. Зоркія вочы пільна ўглядаюцца ў лінію дугі каля берагу. А сярод гэтай драбязы чаўноў і душагубак цісьне павольна паважны "дуб" з рознымі таварамі і прадуктамі.

За шырокаю бліскучаю дугою ляжыць, як мора, неасяжны прастор балотных зарасьнікаў, дзе ўсё згладжваецца, закрываецца роўнаю сьцяною высозных чаротаў з бурымі мяцёлкамі. І ўвесь гэты зарасьнік, гэтая жывая коўдра вісіць-хістаецца над дрыгвянаю багнаю бяскрайніх балот, дзе ня пройдзе чалавек, дзе толькі можа з трудом прасунуцца лёгкі човен або чайка-душагубка, угінаючы балотную пакрыўку, на якую набягае вада. Незнаёмаму з тутэйшымі балотамі чалавеку небясьпечна забірацца ў гэтыя нетры: заедзеш, ашаломішся, заблудзіш і не патрапіш выбрацца, бо, апроч густых чаротаў ды неба над галавою, нічога ня ўбачыш. Прападзеш, калі ня выратуюць людзі. На гэтым балотным прасторы пападаюцца вузкія, чорныя, як растопленая смала, палосы вады, страшныя сваёю маўклівасьцю і глыбінёй. Тут праходзяць рэчкі Струмень, Стаход і Стыр, дзесь па

той бок балотнай роўнядзі.

Лабановіч цэлымі гадзінамі праседжвае ў воласьці каля адчыненага вакна, любуецца прасторамі балот, поўнымі сваеасаблівага прыгаства і жыцьця.

А надвор'е на зьдзіўленьне ціхае, яснае, цёплае. Сіняватая смуга зьвісае над зарэччам. Журботна-ласкавая ўсьмешка восені разьліта на занямелых, як-бы заснуўшых далях. Вынікае, далёка-далёка, белаваты дымок рачных параходаў. Здаецца, ён стаіць на адным месцы — так павольна здалёк вызначаецца лінія яго руху. І доўга трэба сачыць, углядацца, каб заўважыць рух белаватага дыму над пабурэлымі ад часу чаротамі.

Адна зьява асабліва зацікавіла тут Лабановіча: раптам то ў адным, то ў другім месцы паднімаецца палавое воблака дыму, выблісьне агонь, разьбягаючыся па крузе. Пройдзе хвіліна, другая, дым прападзе, і зьнікне агонь — не пад сілу яму змагацца з стыхіяй балот, ня можа ён разгарнуць тут сваіх гарачых крыльляў. Крыху счакаўшы, агонь выбухае ў другім, у трэйцім месцы, а то ў некалькіх мясьцінах адразу. Гэта сумысьля падпальваюць балота палешукі, каб на выгаралым месцы расла налета маладая, лепшая трава.

Пазірае Лабановіч на гэтыя зьявы-малюнкі, убірае іх у сваю істоту, злучаецца з імі, імі жыве, адчувае як-бы нейкую блізкасьць да іх, спачуваньне, прыязьнь, дружбу. Яму хочацца яшчэ болей шчыльна зьліцца з імі, расплысьціся ў павабнай далечы-прасторы і самому стацца гэтым прасторам. У душы ўзьнікаюць нейкія поўныя чараў няясныя вобразы, і часамі мільгаецца штось як-бы даўно знаёмае, бачанае, пержытае. Але дзе і калі? Ці гэта толькі водгалас уласных летуценьняў, сьненьня, ці сапраўды ён перажываў ужо нешта падобнае? На нейкі момант настаўнік забывае, дзе ён, як-бы зусім адрываецца ад зямлі і ад рэчаіснасьці.

Але гучныя галасы зямлі і моцныя ніткі рэчаіснасьці, каб можна было надоўга забыцца аб іх. У воласьці толькі ў некаторыя дні і гадзіны бывае зацішак, такі зацішак, калі нават памочнік пісара вылезе з-за стала і на некаторы час зьнікне. Звычайна-ж тут, на зборні ці ў канцылярыі, таўчэцца народ. Прыходзяць людзі па сваіх справах, а спраў гэтых у воласьці многа. Ці скаргу напісаць на суседа, ці заключыць кантракт, ці нядоімку ўнесьці, ці льготу сыну зрабіць, ці копію ўзяць, ці проста так сабе пісара пабачыць, шапнуць, таемна кіўнуць яму галавою, каб вышаў у пакой для прыезджых, дзе ўжо пачціва, стаіўшыся ў куточку, стаяць пакорлівыя бутэлькі піва.

Шумна і гучна прыходзіць сюды старшыня Захар Лемеш. Яго ногі яшчэ не пасьпеюць як сьлед стаць на ганку за зборняю, а ўжо ў канцылярыі кажуць: "Старшыня ідзе". Гучны голас старшыні папераджае самога старшыню. Як капітан з салдатам, пaздароўкаецца ён яшчэ з двара з дзедам Піліпам, а той адкажа яму па-салдацку: "Здравя жылаю, гаспадын старшыня", хоць ні старшыня, ні Піліп у салдатах не служылі. Калі-ж дзед на вочы не пападзецца, то старшыня пусьціць свой голас да каго-небудзь на зборні. А калі і на

зборні пуста, нікога няма, дык ён прарэжа гучным голасам і гэтую пустату: "Братцы мае, нікога няма!" Бо голас у старшыні моцны, ён любіць свой голас: голас дае яму пашырэньне ўласнага "я". Пісаржа і памочнік патураюць яму. Пісар сьцьвярджае, што такога старшыні ва ўсім Пінскім павеце няма, а памочнік не раз гаварыў: "Нашаму-б старшыні палицмайстрам быць". Усё гэта кружыць галаву Захару Лемешу. Ды ён-жа — гаспадар воласьці!

Захар Лемеш — фігурны чалавек. Як для старшыні, ён яшчэ зусім малады, гадоў пад трыццаць пяць. Да таго-ж ён і бялявы, а бялявасьць мае тую ўласьцівасьць, што паказвае чалавека маладзейшым. Барабы ў старшыні няма і вусы вышлі слаба, але твар энэргічны і досыць прыгожы. Губы, хоць трохі таўставатыя і часамі крывяцца, але гэта ўжо — здабытак яго старшынскай важнасьці, а не падарунак прыроды. Зеленаватыя вочы умеюць быць злымі і строгімі, хоць сам старшыня чалавек ня злы. Калі ён уваходзіць у канцылярыю, то шумна ідзе за балясы, громка здароўкаецца з пісарам і з памочнікам і важна садзіцца за стол, прычым крэсла пад ім рыпіць, трашчыць і хістаецца, бо старшыня — мужчына ёмкі, шырокі, як добрае шула ў гумне заможнага гаспадара.

— Слухай, пісар: трэба купіць нам добрых крэслаў, бо на гэтай рундзе і сядзець нельга. — "Рунда" ў старшыні азначае — ерунда.

Затым старшыня пераводзіць вочы на царскія партрэты і на рамы, што сам выбіраў. Ён цешыцца з цароў і асабліва з царыцы. А часамі ня ўтрывае і скажа:

— Эх, ядры яго качан. Убрацца-б, як цар, ды мець-бы сабе такую маладзіцу!

Пасьля гэтага старшыня пытае ў пісара, як справы ідуць, што зроблена, што трэба зрабіць, куды паехаць у першую чаргу і да каго заехаць, зрабіўшы справу.

— Ну, дай папяросу, — гаворыць у заключэньне старшыня.

Калі часамі памочнік пісара працягне яму свае папяросы, старшыня зьняважліва махае рукою і гаворыць:

— Рунда твае папяросы!

Ён ведае, што пісаравы папяросы даражэйшыя, хоць распазнаць гэта сваім уласным смакам ня можа, бо старшыня ня курэц, а курыць толькі пры выкананьні старшынскіх абавязкаў для большай салíднасьці і важнасьці. Ён часамі нават і сам купляе пачачкі папярос па дзесяць штук, за тры капейкі пачак, бо не заўсёды-ж пад рукою бывае пісар, дый яно яшчэ важней выглядае, калі старшыня пры людзях вымае са свае кішэні папяросу.

— Пры службе, бач ты, бяз гэтага трудна абыйсьціся, — гаворыць старшыня, калі хто заўважае, што ён курыць пачаў.

Сюды-ж вольным часам заходзіць і царкоўны стараста Грыгор Крэшчык, крапак-старычына гадоў за шэсьцьдзесят. Ён любіць кампанію вышэйшага палёту, любіць пасядзець, пабалакаць, парагатаць і аб царкоўных справах завесьці размову, бо Крэшчык больш за сьвятара дбае аб дабрабыце царквы. Таксама ахвотнік ён хлабыс-

нуць піва. Часамі з півам і прыходзіць сюды ды яшчэ і рыбіну ў дадатак прыцягне, каб пісарава маці зрабіла фрыштык. Грыгор Крэшчык рагоча заліхвацка. Пагутарыўшы аб сьвятых справах царкоўных, ён так ці іначай скіруе размову і на прыгожых маладзіц. Адным сломам, чалавек — душа.

Сельскі стараста Бабіч — ціхі чалавек, лагодны. Сам ён гаворыць мала, а толькі слухае, як другія сакочуць, прычым на яго твары ўвесь час красуе найдабрэйшая ўсьмешка. Ніхто так ня ўмее слухаць, як Бабіч: уважна, спагадна, прачула. Часамі ён сьмяецца ўголас, махнуўшы рукою і спусьціўшы лысую галаву. А калі адпаліць хто штонебудзь вельмі сакавітае, тады стараста замахае абедзьвюма рукамі і сьмяецца, круцячы галавою. Прыемна расказваць такому чалавеку.

І пісар, і старшыня, і абодва старасты агортваюць Лабановіча сваёю ўвагаю, частуюць півам, падбадзёрваюць, каб быў весялейшым, бо тут няма прычыны быць невясёлым: і маладзіц харошых многа і паненак стае — у першую чаргу дзьве сястры-пападзянкі і дзякова Даша, і ўсе яны амаль на адным двары са школаю.

Слухае настаўнік ды пасьміхаецца, а сам думае — хутчэй-бы ў школу сваю перайсьці.

працяг будзе.

---

Алесь Салавей

* *
*

Не сагрэе сонца майго твару,
ня ўсьміхнецца ў вочы мне блакіт,
калі неба засьцяць змроку хмары
і жухнее долу малахіт.
Не, жыцьцё ня ў тым, што чуеш, бачыш,
не ўва ўсьмешках сонца, не ў цяпле,
і жыцьцё ня ў горы, і ня ў плачы,
ня ў гібеньні блізкага у тле.
А ня ведаць сну, ня знаць спакою —
і ня сьмерць, таксама й ня жыцьцё.
Ліха жыць з напасьцяю цяжкою,
блага йсьці з напасьці ў нябыцьцё.
Дрэнна знаць раскошу і багацьце —
гэта зьгіне, марна прабяжыць.
Жыць — быць роўным з роўным і змагацца
за сваё прызначаньне, каб жыць.

1944

# СЁЕ - ТОЕ

— Што-б ты рабіў, калі-б на тваю жонку напаў тыгр?
— Я-б не пачынаў умешвацца: сам напаў, сам няхай і абараняецца.

Скажу вам адкрыта, што толькі алькаголь зьяўляецца аснаўной прычынай вашага злачынства.
— А я-ж вам, спадар судзьдзя, і гаварыў, што я зусім не вінаваты.

— Ты ня мог-бы пазычыць мне 50 даляраў?
— Нажаль, дружа, у мяне няма пры сабе грошай.
— А дома?
— Дзякую, усе здаровы!

— Апошні раз пытаюся: калі ты аддасі доўг?
— Вельмі рады, што пытаешся ты гэта ў апошні раз.

—Выбачайце, ці я быў тут учора вечарам?
— Так былі.
— І я прапіў у вас 20 даляраў?
— Так.
— Слава Богу! А я ўжо зьлякаўся, думаў што згубіў іх.

—Ці ма-гу й-й-й-я ку-у-ліць ад-д-наго пппапугая?
— Ідзеце адсюль! Калі ласка скарэй выходзьце! — крычыць прадавец. — Вы мне сапсуеце ўвесь тавар.



— Добры дзень, Мікіта — дружа!
Рады я цябе вітаць!
Сам яшчэ, як бачу, дужы —
Дзеткі як, дазволь спытаць?
— Дзякуй, добра, лепш ня трэба!
Волька замужам даўно,
Сын у горадзе жыве, брат,
Як міністар, усё адно!
А твае як?
— Падрастаюць. Бога нечага гнявіць.
Меншы ўжо як суне дулю,
Аж у носе засьвярбіць.

Шукаў ветру ў полі, бо ня было куды кідаць словы.

З дуба таксама можна рабіць ліпавыя рэчы.

Розьніца паміж разумным і дурным? Першы можа стаць другім, а другі ня можа стаць першым.

Нашы веды растуць з дня ў дзень — няма межаў людзкому невуцтву.

Ад няма чаго рабіць п'юць толькі абмежаваныя. Разумны чалавек заўсёды знойдзе прычыну.

Ішоў супраць плыні... берагам.



— Спачатку ён кінуў курыць, потым кінуў піць, а потым кінуў мяне...

— Верыць мужчынам? Не! Усе мужчыны — брахуны! — сказала Канцавая Фенька.

— Гэта чаму?

— А як жа! Колькі з іх клялося мне ў каханні, а не ажаніўся са мною ніводзін!

## Даказала

Сядзіць мужык, стругае бульбу і кажа да жонкі: — Скажы ты мне, навошта Бог стварыў бульбу?

Жонка адказвае: — Дурны ты, не ведаеш, на тое, каб і бедны чалавек меў з каго скуру дзерці.

### АБЕД

Муж, вярнуўшыся з работы, разгневана звяртаецца да жонкі:

— Абед негатовы! Галодны, як воўк... Іду ў рэстаран!

— Пачакай пяць хвілін.

— Што ж ты прыгатуеш за такі час?

— Не, я апрануся і пойдзем разам.



— Еш, маленькі...



— Шчыра кажучы, я таксама часценька падумваю аб разводзе, ды дзе ў наш час знойдзеш такую хатнюю работніцу?

## Растлумачыў

— Скажы ты Міхась — кажа сусед да суседа, — чаму месяц бляднейшы ад сонца?

— Не ведаю — адказвае Міхась.

— Ведаеш, каб сонца бачыла толькі ўсяго, што месяц у ночы — дык было-б яшчэ больш бледнае.



— [illegible] месяца цёці.



— Пастарайся крыху загарэць. Я суседзям сказала, што ты паехаў у Афрыку.



Мінск. Плошча імя Якуба Коласа.

Адна з цэнтральных магістралей Мінска.

*Editor and Publisher: Nikolas Prusky*
*1086 Forest Hills Ave., SE. Grand Rapids, Mich. 49506 USA.*